© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 16 (2136) Год XLII Беласток 20 красавіка 1997 г. Цана 1 зл.



*Панарама „ўсходняй сцяны".* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

## Паставіць свечку

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

У суботу, 6 красавіка, выбраўся я пабачыць, што дзеецца на нашай „усходняй сцяне". Надвор'е ў гэты дзень было даволі непрыязнае, каб не сказаць нават — каварнае, і толькі дзе-нідзе найадважнейшыя землярobы выйшлі ў поле. На вуліцах нашых вёсак пуста. У Старым Масеве — ціш. Заходжу на панадворак Васі Вярбіцкага, які тут солтысам. Гаспадар з суседам ставяць сеялку, якою той сусед толькі што пасеяў сабе авёс. Дзе цень, там снег, дзе сонца — снегу няма. Вецер — пранізліва ледавіты. Заходзім дахаты. Паколькі вёска паказалася мне надта апусцелай, з голымі сядзібамі, пытаю, колькі хатаў разабрана, колькі пустуе. Марыся, Васева жонка, пералічвае: разабрана дзесяць, стаіць яшчэ і пустуе таксама дзесяць. Два гады таму праведзена ваду ў 25 хатаў, трох гаспадароў адказаліся ад вады — значыць, яшчэ стаіць 28. Чым займаюцца людзі? Пенсіянеры амаль усе, маладых няма, дзе-хто яшчэ крыху абрабляе гаспадарку. Так „усур'ёз" на зямлі ніхто не робіць; адзін толькі крыху кароў трымае. Некалькі гадоў таму прыехала сюды маладое сужонства, набралі зямлі 38 гектараў, машын, але ўжо кінулі — яна пайшла на працу ў таможню, ён — у лес, лоўчым; а зямля аблагом ляжыць. Пытаю пра рэзерват. Адказ — і без слоў, і пару слоў. Нельга ўжо ўваходзіць у лес, загарадзілі дарогу; кажуць, што летам дазволяць яшчэ назбіраць ягад. А чым паліць у печах? Ну, прапануюць дровы, але толькі яліну; вазьмі і нагрэй такімі дровамі печ! Працуе яшчэ восем гадзін у дзень ГСаўская крама, прыязджаюць і абвознікі. Два разы ў дзень ходзіць ПКСаўскі аўтобус. Хочуць правесці тэлефоны; запісалася нават байкавата народу — будзе каштаваць па якіх пяць старых мільёнаў...

* * *

У Новым Масеве солтыса няма дома, сусед кажа, што на памінальнай гасціне. Вёска невялічкая, і таксама не відаць у ёй ніякіх прызнакаў светлай будучыні.

Альхоўка трымаецца, такое прынамсі вонкавае ўражанне. Хаты стаяць шчыльна, не відаць, каб пуставалі. А да таго ж яшчэ тут і ластаўка капіталізму, які раней здаваўся быць панацэяй на ўсе немачы — у кемпінгавай міні-прычэпцы „крама", у якой усё: *mydło i powidło.* Стаіць тут таксама і ГСаўская крама.

У Забрадах таксама відаць апусцелыя пляцы, адзін свежанькі — яшчэ горда ўзвышаецца над ім голы комін.

У Пасеках выглядаю солтысавага дома, не знаходжу. На канцы вёскі двое мужчын прыбіваюць паясы да слупаў. Пытаю пра солтыса.

— У нас няма солтыса, наш солтыс у *Мадзьвадзях.* Там усе Мядзведзі, толькі ён адзін — Засім, прыстаў сюды з Лешукоў хіба, або з Міхнаўкі. У яго яшчэ і Баравыя, і Баб'я Гара.

Тлумачаць мне як туды праехаць, і нават мне гэта ўдаецца ў лабірынце палявых дарог. Але хаты солтыса знайсці не ўмею, хаця хатаў тут — на адну руку! Акурат пападаецца хлапчук на ровары, які паясняе, што трэба павярнуць у вуліцу налева. Не вуліца гэта, але вулачка...

* * *

Солтыс Анатоль Засім запрашае дахаты. Архітэктура яе — нетыповая; не тое, што наогул у нас — сені, а ў сенях трое дзвярэй: направа — у камору, для хатніх, налева — у пакой, для свяціцеля, калі ходзіць па калядзе, і прама — для ўсіх апошніх грэшнікаў, у кухню, дзе і печ, і агонь, быццам напамін пекла. А тут дом падзелены, быццам М-6 у горадзе. У першым пакоі абедаюць дзеці, у другім — свежанькія пірагі красуюцца. Пытаю гаспадыню, Тамару, ці і хлеб сама пячэ.

— Летам, у летняй кухні, там хлебная печ; зімою там хлеб не падыдзе.

Гутарка кранае і супольных знаёмых:

— Я з Мірай Лукшай у адным класе ў школе была; вельмі добра Міра вучылася. Яна сама з Баравых, сваячка мая.

— А ведаеце, што мне ў „Ніве" не падабаецца? — дадае.

— Ну?

— Калі пра вайну пішаце; я гэтага не люблю. А найбольш мне падабаецца „Сэрцайка", з яго пачынаю чытаць — вельмі там цікавыя справы. Ну, прачытваю ўсё. І яшчэ вельмі цікава Аўрора піша; калі толькі пабачу нешта яе — чытаю дакладна. А знаеце што: калі б хлопец не прывозіў гэтай газеты са школы, я б яе і ўвогуле не чытала.

Найстарэйшы сын вучыцца ў гайнаўскім Белліцэі, даязджае поездам, не захацеў жыць на кватэры. Малодшыя трое дзяцей ходзяць у Семяноўку. Усе

[працяг ☞ 8]

## Дзесяць гадоў у Рыбалах

Мікола ВАЎРАНЮК

**Вялікі панядзелак у 1987 годзе выпаў 13 красавіка. У гэты дзень рыбалаўскія прыхаджане заехалі сваімі самаходамі ў Сямятычы, каб прывезці адтуль маёмасць свайго новага настаяцеля. Быў ім айцец Рыгор САСНА.**

— На прыходзе ў Сямятычах быў я звыш дваццаці гадоў вікарным, — расказвае ён. — Знайшоў там ідэальныя ўмовы для сваёй даследчыцкай працы. Добразычлівыя працаўнікі сямятыцкай бібліятэкі заказвалі мне кнігі, часопісы ды іншыя выдавецтвы з усяе Польшчы. У мяне былі час і магчымасці чытаць іх, вышукоўваць інфармацыі аб праваслаўі ў самых розных крыніцах, пісаць. Таму мне вельмі не хацелася адтуль выязджаць. Але, дзякуй Богу, на новым месцы знайшоў я спакой і ўдалося мне тут, між іншым, наладзіць сур'ёзную выдавецкую дзейнасць.

Дзесяць гадоў падрабязна адлюстраваныя ў двух тоўстых альбомах, якія з'яўляюцца памятнымі кнігамі і, адначасна, летапісам прыхода. Цераз прыхадскі дом у Рыбалах за гэты час прайшлі тысячы наведвальнікаў: святары, паломнікі, гісторыкі, журналісты, дзеці Чарнобыля, пеўчыя, мастакі, турысты, праваслаўныя, евангелікі, каталікі, атэісты. Запісы на польскай, рускай, беларускай, англійскай, грэчаскай, украінскай, нямецкай, галандскай і, мабыць, некалькіх іншых мовах. Прадстаўнік Польскай экуменічнай рады ў Варшаве, рэдактар Яўген Дамброўскі, напрыклад, упісаўся так: *Serdeczne dzięki Wielce Wielebnemu Księdzu Grzegorzowi Sośnie i Jego Szlachetnej Małżonce oraz rodzinie za staropolską uprzejmość i gościnę jaką wielokrotnie doznawaliśmy podczas naszych służbowych i prywatnych wizyt w parafiach w Siemiatyczach i Rybołach.* А акцёры Гродзенскага лялечнага тэатра назвалі бацюшку „Святым Айцом".

[працяг ☞ 9]



*Айцец Рыгор з рыбалаўскімі дзеткамі.*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Мы прачыталі

*Libijski przywódca, pułkownik Muamar Kadafi i iracki dyktator Saddam Husajn zostali honorowymi członkami Liberalno-Demokratycznej Partii Władimira Żyrinowskiego.*

*Gazeta Wyborcza, nr 71*

Раней сябрам партыі Жырыноўскага стаў нейкі Брычкоўскі з Польскага нацыянальнага фронту, лідэр французскіх расістаў Жан-Мары Ле-Пэн і звыш дзесяці тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія найбольш актыўна падтрымліваюць палітыку Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі.

* * *

*Najgorzej jest z bohaterami walk z PRL-em. Nie jesteśmy, zdaje się gotowi do podjęcia uczciwej debaty nad rzeczywistym stanem podziemia. Zbyt świeże są wieloletnie łgarstwa. Ale nie łudźmy się, gdy do niej dojdzie, niejedna wychyli się z kart historii twarz potwora, i niejedna twarz ofiary zabitej przez chorobliwie gorliwego rycerza niepodległości. Niejeden mit legnie w gruzach.*

*Nowe Państwo, nr 11*

* * *

*Галіна Радзівонаўна Лукашэнка, якая пражывае ў Шклове, атрымала пашпарт новага ўзору з новай сімволікай. Жонка прэзідэнта можа цяпер нават паехаць за мяжу.*

*Свабода, н-р 31*

Напрыклад, у Малдову.

* * *

*Za gwałt i zamordowanie córki płockiego policjanta sąd w Płocku skazał Seweryna C. na 25 lat więzienia. Seweryn C. napadł na wracającą z dyskoteki 20-letnią studentkę Ewelinę R. Zgwałcił ją i udusił. Przebywał wtedy na przepustce z więzienia, gdzie trafił za brutalny gwałt na 10-letniej dziewczynce, oraz zabójstwo 60-letniego mężczyzny.*

*

*Czterem zabójcom w Mekce odrąbano głowy. W Arabii Saudyjskiej gwałt, zabójstwa i rozboje karane są śmiercią, a egzekucje odbywają się publicznie. Przestępczość jest tam najniższa na świecie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 71*

* * *

*Opony płonące na ulicach, ponury tłum uzbrojony w solidne kije, płomienie liżące frontony budynków, policja w ekwipunku szturmowym. Te obrazki ładnie wyglądają na ekranach i chętnie pokazywane są wszędzie. Tym razem nie dotyczyły one Soveto czy Rwandy tylko Polski. Widok szyb wybitych w ministerstwach oraz czarnego dymu unoszącego się nad miastem nie zachęca ani do odwiedzania Polski, ani inwestowania w naszym kraju. Kapitał nienawidzi bałaganu. Dlatego omija on Afrykę, kraje byłego Związku Radzieckiego, trafia do Czech i Węgier.*

*Kurier Poranny, nr 73*

* * *

*Przyglądając się, jak Łukaszenka rządzi Białorusią, ogarnia przerażenie. Chciałbym być dobrze zrozumiany. Jestem zwolennikiem integracji Rosji i Białorusi, podobnie jak z każdym innym państwem b. ZSRR. Będę szczęśliwy, jeśli kiedyś integracja dwóch słowiańskich narodów doprowadzi do powstania jednego państwa. Ale kategorycznie nie zgadzam się, by na drodze do tego szczęścia trzeba było bić pałkami po głowach białoruskich nacjonalistów, chociaż nie podoba mi się ich antyrosyjska retoryka. Zresztą nie biją tylko nacjonalistów, ale i przyjaciół Rosji. Nie wierzę, że szczęście narodów można osiągnąć za pomocą bicia. Czyżbyśmy naprawdę tak szybko zapomnieli o losach ZSRR, którego fundamentem było właśnie bicie, co zresztą w rezultacie doprowadziło do jego zguby,* — піша расейскі журналіст Ота Лацыс.

*Gazeta Wyborcza, nr 77*

* * *

*Генерал Юрый Ціткоў з'яўляецца настаянным удзельнікам усіх акцыяў апазіцыі. Генерал заўсёды прыходзіць з батальёнам узброеных байцоў.*

*Свабода, н-р 31*

Вясёлыя рабыты з КГБ.

* * *

*Sergiusz Martyniuk właściciel spółki Pronar, hotelu i znacznej części miasta Narew jest biznesmenem najszybciej awansującym na liście najbogatszych Polaków. Jest w pierwszej piętnastce. Martyniuk uchodzi za osobę, która może w decydujący sposób pomóc lewicy wygrać wybory w województwie białostockim. W czerwcu 1996 r. otrzymał bezcłowy kontyngent paliwowy. UOP interesował się Pronarem w związku z podejrzeniami o przestępstwa celne. Premier, który bywa na przyjęciach u Martyniuka w Narwi, bardzo się zdenerwował, gdy zauważył, że ktoś go bacznie obserwuje. Potem się wyjaśniło, że to gospodarz jest pod obserwacją.*

*Wprost, nr 13*

* * *

*Narody bogate, żeby utrzymać swój prymat i móc importować prostsze wyroby z krajów biedniejszych (jak choćby Amerykanie gwoździe z Polski i Chorwacji) muszą ciągle piąć się w górę, po drabinie technologii, wytwarzać towary o coraz większym udziale myśli i w sposób coraz bardziej innowacyjny. Ale kiedy Amerykanie, Szwajcarzy, Niemcy robią te rzeczy bardziej innowacyjnie — ktoś musi dla nich zrobić szklanki, teczki, piżamy, choćby po to, żeby mieć czym zapłacić za komputery, samoloty, idee. To my, druga i trzecia linia, kraje dalekie od czołówki, ale także z prawem do swojego miejsca pod słońcem.*

*Polityka, nr 13*

# З мінулага тыдня

**Папа Ян Павел II** прыняў групу беларускіх біскупаў, якія прабывалі з візітам у Ватыкане. У ходзе аўдыенцыі папа заклікаў іх рабіць намаганні дзеля змянення „homo sovieticus", які дзесяцігоддзямі фарміраваўся камуністычным рэжымам, а таксама падтрымоўваць братэрскія адносіны з праваслаўнымі. Папа выказаў салідарнасць з біскупамі з Беларусі ў многіх пытаннях, з якімі яны маюць дачыненне ў сваёй краіне, перажываючай складаную і нестабільную сітуацыю, калі паступае збядненне значных слаёў грамадства, што можа прывесці да небяспечнай настальгіі па мінулым.

**Аляксандр Малахоўскі** — віцэ-маршалак Сейма і адзін з лідэраў Уніі працы на прэс-канферэнцыі ў Беластоку палічыў нядаўна ўхваленую парламентам новую канстытуцыю вялікім поспехам сваёй партыі. „Гэта канстытуцыя, якая ахоўвае тых людзей у Польшчы, якім падчас трансфармацыі не пашанцавала, якія не маюць сродкаў, каб выжыць, каб лячыцца, — сказаў А. Малахоўскі, падразумяваючы запісаны ў канстытуцыі т.зв. сацыяльны пакет. — Радуемся тым, што згодна з канстытуцыяй не толькі дзяржаўныя ўлады, але і публічныя маюць абавязак захаваць бесстаронасць у светапоглядных і рэлігійных справах. Хто выказваецца супраць гэтай канстытуцыі, той выказваецца за папярэднюю канстытуцыю, уласнаручна напісаную Сталінам".

**У Гданьску** закончыўся трохдзённы семінар для беларускіх кіруючых спецыялістаў. Яго тэмай былі метады прыватызацыі і рэструктурызацыі буйных прадпрыемстваў у Польшчы на прыкладзе Гданьскага ваяводства. Арганізавалі семінар Ваяводская ўправа, Паморская гандлёва-прамысловая палата, а таксама Генеральнае консульства РБ у Гданьску. Абмяркоўваліся пытанні прыватызацыі прамысловых, будаўнічых, сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у Польшчы, прыцягнення замежнага капіталу ў працэсе прыватызацыі. „Беларускі бок зацікаўлены развіццём гандлёвых адносін з Польшчай, галоўным чынам з Гданьскім ваяводствам", — заявіў пасол РБ у Польшчы **Віктар Бурскі** падчас семінара.

**У Цэнтры сучаснага мастацтва**, што змяшчаецца ва Уяздоўскім замку ў Варшаве, адкрылася выстава прац трох мастакоў, якіх спалучае пранікаючая іх мастацтва ідэя праваслаўя. Свае працы экспануюць на ёй класік польскага жывапісу **Ежы Навасельскі** і мастакі сярэдняга пакалення — **Лявон Тарасэвіч** і **Мікалай Смачынскі**. Выстава будзе адкрыта да 15 мая г.г.

**Кансультацыйную раду нацыянальных меншасцей**, якая будзе працаваць пры Тэлевізійным асяродку ў Беластоку, узначаліў **Станіслаў Станкевіч** — старшыня цыганскай арганізацыі. Раду складаюць прадстаўнікі арганізацый, якія дзейнічаюць у беларускім, літоўскім, нямецкім, расейскім, татарскім, украінскім і цыганскім асяроддзях. Беларускае асяроддзе прадстаўляюць у Радзе **Яўген Вапа** — старшыня Беларускага саюза ў Рэспубліцы Польшча і **Ян Сычэўскі** — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

**У Гайнаўцы** лекары са станцыі хуткай дапамогі патрабуюць павышэння зарплаты. Кіраўнік гайнаўскай хуткай дапамогі **Анатоль Лемберг** адзначыў, што стаўкі мясцовых лекараў ніжэйшыя, чым плата ломжынскіх калег, якія ў знак пратэсту падалі заявы аб звальненні іх з работы. Адыходам з працы ў станцыі хуткай дапамогі пагражаюць таксама лекары з Бельска-Падляшскага.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- Пра Уладзіміра Рамановіча, які 30 гадоў чакаў рэабілітацыі — піша Мікалай Лук'янюк.
- Велікодныя звычаі ў Орлі — апісвае Міхал Мінцэвіч.
- Ці Румынія гэта бедная краіна — разважае Яўген Мірановіч.


# Весткі з Беларусі

**Дагавор аб саюзе**

Прэзідэнты Барыс Ельцын і Аляксандр Лукашэнка падпісалі ў Крамлі дагавор аб саюзе Расеі і Беларусі і парафіравалі статут саюза дзвюх дзяржаў. „Саюз гэты не стварае адзінай дзяржавы — абодва бакі захоўваюць свой суверэнітэт", — заявіў Барыс Ельцын, адкрываючы пасяджэнне Вышэйшага Савета Супольнасці Расеі і Беларусі. Ён падкрэсліў, што граніца між дзвюма краінамі засталася толькі на карце. Ельцын сказаў таксама, што стрыжань саюза — эканамічны, а шлях да адзінай валюты дзвюх краін — досыць доўгі. Аляксандр Лукашэнка ў сваю чаргу падкрэсліў, што галоўным дасягненнем саюза з'яўляецца тое, што грамадзяне Расеі і Беларусі зноў набудуць пачуццё адзінства і непарыўнай сувязі.

**Антысаюзны мітынг**

2 красавіка, калі ў Маскве падпісваўся дагавор аб саюзе Беларусі і Расеі, у Менску адбыўся васьмітысячны мітынг праціўнікаў інтэграцыі з Расеяй. Прамаўлялі на ім лідэры БНФ і іншых дэмакратычных арганізацый, якія абвінавацілі Аляксандра Лукашэнку ў „гандляванні Беларуссю". Міліцыя і АМАП заатакавалі дэманстрантаў, калі тыя пасля мітынгу хацелі ісці пад сядзібу пасольства Расейскай Федэрацыі. Беларускі Хельсінскі камітэт мяркуе, што 200 чалавек было затрыманых, а многія асобы атрымалі пашкоджанні цела. У тэлеперадачы „Навіны" дэманстранты былі абвінавачаны ў „агрэсіі, хуліганстве і правацыраванні міліцыянтаў".

**Нота дзяржаў ЕС**

Паслы чатырох краін Еўрапейскага Саюза ў Менску — Вялікабрытаніі, Італіі, Нямеччыны і Францыі — выказалі занепакоенасць многімі фактамі парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Ноту ў гэтай справе ўручылі яны міністру замежных спраў Івану Антановічу. У дакуменце напісалі яны, што ЕС лічыць недапушчальным паводзіны беларускіх улад, якія незаконна забараняюць арганізаваць дэманстрацыі і абмяжоўваюць свабоду слова і інфармацыі.

**Праблемы з МВФ**

Кіраўнік Цэнтрбанка Расеі Сяргей Дубінін лічыць, што ў Міжнароднага валютнага фонду няма пярэчання супраць саюза Расеі і Беларусі. Аднак у выпадку стварэння адзінай дзяржавы яе уладам давядзецца весці новыя перагаворы з Фондам. На этапе стварэння адзінай дзяржавы трэба будзе вырашаць праблему выканання абавязацельстваў перад МВФ, аднак гэтыя абавязацельствы ўжо будуць выконвацца з боку адзінай федэратыўнай дзяржавы. Для гэтага спатрэбіцца спецыяльнае рашэнне і спецыяльныя перагаворы і пра падобныя перспектывы можна будзе казаць толькі пасля выканання трохгадовай праграмы супрацоўніцтва Расеі і МВФ.

**Польскае кіно ў Менску**

Надыходзячаму Святу перамогі была прысвечана рэтраспектыва мастацкіх фільмаў вядомых польскіх рэжысёраў, якую падрыхтавалі пасольства Польшчы ў Беларусі і кінатэатр „Перамога" ў Менску. Прайшла яна з 7 па 11 красавіка. Дзякуючы гэтаму паказу мянчане змаглі ўбачыць II сусветную вайну вачамі польскіх кінематаграфістаў.

**Гродзенскія вучоныя**

Нядаўна трыма дактарамі навук папоўніўся вучоны калектыў Інстытута біяхіміі Акадэміі навук Беларусі, што размешчаны ў Гродне. У Маскоўскім інстытуце біяхіміі доктарскую дысертацыю абараніў загадчык Лабараторыі канфермeнтаў Андрэй Майсяёнак (работа прысвечана вывучэнню абмену пантатэнавай кіслаты). Высокую вучоную ступень атрымалі таксама загадчыкі лабараторыяў Іван Чарнякевіч і Дзмітрый Апарын. Цяпер у Інстытуце дзесяць дактараў і пяцьдзесят кандыдатаў навук. Рыхтуюцца да абароны яшчэ чатыры доктарскія дысертацыі.

**Бярозавы дэфіцыт**

Магчыма, бярозавы сок хутка стане дэфіцытным. Нарыхтоўкі яго скарачаюцца. Калінкавіцкі лесгас, напрыклад, зусім адмовіўся сёлета ад збору бярозавіка. Летась работнікі лясной гаспадаркі паставілі перапрацоўчым прадпрыемствам сотні тон гэтай гаючай сыравіны, а вось грошы за яе не паступілі нават за 1995 год. З улікам інфляцыі работа па збору бярозавага соку атрымліваецца стратнай.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Патрэбны рамонт дарогі

У 1988-1992 гадах склалася так, што давялося мне выконваць абавязкі раднага Гміннай рады ў Бельску. Паколькі солтыса ў Райках няма, з прапановай пабудовы дарогі звярнуўся да мяне Васіль Купрыяновіч — солтыс з Кнаразоў, што ў Бельскай гміне. Сам ён ураджэнец Кленікаў. Прапанова аказалася вельмі карыснай і адначасова складанай. Па-першае: улады гміны не адобрылі нашай заявы, па-другое: пабудову дарогі пачынаць трэба было з нуля, а па-трэцяе: не вядома было, ці сяляне згодзяцца на грамадскі пачын. Мне давялося змагацца даволі сур'ёзна і ўпарта. Амаль на кожнай сесіі ставілася справа пабудовы дарогі з Райкаў у Студзіводы праз урочышча Ясяноўку і патрабавалася нейкая фінансавая дапамога. Адказ быў толькі адзін: „Няма! Вы пачалі, вы іканчайце!" Многа прыкрых слоў вылецела з маіх вуснаў у адрас гміннага начальства.

А людзі секлі хмызняк, рабілі трыбу, капалі канавы без ніякага ганарару. Пасля атрымалі мы нейкія скромныя грашовыя сродкі на рэкультывацыю з Ваяводскай управы. Дарога прабягае праз лугі распаложаныя над рэчкай Белай, па глыбокіх тарфяных сенажацях.

— Робім дарогу дзеля ўласнай выгады, проста сабе, — паўтаралі жыхары Раек.

Перш за ўсё атрымаўся добры даезд на сенажацi. Лягчэй стала давезці жывёлу на пункт скупкі ў Бельск, ці прывезці паліва і г.д. Ад таго часу многія ўдзельнікі грамадскай працы адышлі на вечны адпачынак, іншым прыбыло маршчын на тварах. І дарога, таксама як чалавек, патрабуе рамонту. У іншым выпадку яна загіне, памрэ як людская істота. А нішчыцца яна хутка, бо паехалі па ёй цяжкія грузавыя машыны, асабліва з малочнага прадпрыемства ў Бельску.

А зацікаўленых рамонтам, на жаль, пакуль што няма!

Вось меркаванне чалавека, які карыстаецца гэтай дарогай, вядомага ветэрынара ў нашай акрузе, жыхара Бельска, спадара Яна Мусько: „Гэтая дарога вельмі важная з гаспадарчага і эканамічнага пункту гледжання. Па ёй найкарацей даехаць у Леўкі, Райкі, Казлы, Дубяжын, а нават на тэрыторыю Арлянскай ці Боцькаўскай гмінаў".

А што далей з дарогай? Адкажыце кампетэнтныя спадары, калі ласка.

**Валянцін Семянюк**

<u>Другі дыскусійны семінар</u>

## Беларусы Бельшчыны — археалогія ды сярэдневякоўе

У днях 1-2 мая 1997 года ў рамках культурна-адукацыйнай праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча" Беларускі саюз планує правесці другі міжнародны семінар „Беларусы Бельшчыны". Мінулагодняе мерапрыемства праводзілася ў залах бельскай ратушы. Яго змест ды вынікі паказалі на патрэбу перыядычнасці такога тыпу сустрэч.

У бягучым годзе тэмаю, вакол якой намерваемся правесці дыскусію, мае быць археалогія ды гісторыя сярэдневяковай Бельскае зямлі. Вось некаторыя з тэзісаў:

— засяленне ды этнічнасць;

— тэрытарыяльнае рассяленне плямёнаў дрыгавічоў, бужан, валынян ды ятвягаў;

— пярвічныя тэрытарыяльна-адміністрацыйныя падзелы;

— этнічная прыналежнасць раннесярэдневяковых курганоў ды магіл у каменных абкладах;

— усходне-заходнеславянскае пагранiчча: гарады Бельск, Драгічын, Сураж, Браньск... Што прадстаўлялі сабою некалькі соцень гарадзішчаў паміж Бугам і Нарвою;

— Драгічын як важны горад рускі: праблемы пломбаў, помнікі пісьменства; XVI ст. — падляшская „белая пляма";

— археалагічныя доследы Бельшчыны XIX-XX ст.ст.;

— праблема археалагічных доследаў Замкавай гары і падгароддзя ў Бельску.

У планаваным семінары прадбачваецца прысутнасць археолагаў ды гісторыкаў з Польшчы і Беларусі. Будзе гэта дасканалая нагода для абмену поглядамі ды ведамі, прагляду прадпасылак ды стварэння асновы для супольных даследчыцкіх мерапрыемстваў. Апрача дакладаў і дыскусій прадугледжваецца таксама навуковы аб'езд па трасе: Бельск—Браньск—Гадышэва—Сураж—Завыкі—Заблудаў—Гацькі—Бельск.

Запрашаем усіх зацікаўленых.

Арганізатары

**Яўген Вапа і Дарафей Фіёнік**

# Узлом у школу

У суботу, 25 студзеня г.г., калі закончылася першае паўгоддзе навукі, дзеці з Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы ладзілі навагоднюю ёлку. Калі ў радасным настроі прыйшлі яны на мерапрыемства, заўважылі сляды ўзлому. Злодзей увайшоў цераз акенца ў падвале, затым зламаў дзверы на калідор і ўвайшоў у будынак. Цікавілі яго два памяшканні — школьная крама і кабінет дырэктара.

З крамы, якую вядуць Пятро Галёнка з жонкаю, прапалі грошы і трохі тавару з паліцаў. На жаль, нельга ўстанавіць колькі прадуктаў забраў злодзей, бо апошнім часам не праводзіўся тут перападлік тавараў. Злодзей залез у краму пасля распілавання двух замкоў.

Каб увайсці ў дырэктарскі кабінет, злодзею давялося зрабіць вялікую дзіру ў дзвярах. Там удалося яму адкрыць сейф і забраць 600 зл. Памяшканні былі зланчынцам моцна паніштаны. Для выносу былі падрыхтаваны радыёла і вялікі калькулятар. На жаль, злачынцы да гэтай пары не ўдалося выявіць.

Пра ўзлом у школу ў Дубічах-Царкоўных пісаў я ў мінулым годзе. На шчасце, зладзеі былі злоўлены на месцы чарговага злачынства ў Шчытах-Дзенцялове і прызналіся да шэрагу ранейшых узломаў. Адзін са злачынцаў аказаўся выпускніком дубіцкай школы. Частку зрабаванай маёмасці паспелі яны ўжо прадаць.

Узломы ў школы становяцца штораз часцейшай з'явай. Асветныя ўстановы маняць малалетніх зладзеяў, асабліва тых, якія вучыліся ў іх нядаўна і ведаюць якія каштоўныя прадметы можна адтуль вынесці.

**Славамір Кулік**

# На гайнаўскім базары

1 красавіка наведалі мы з сынам базар у Гайнаўцы. Стаяў незвычайна цёплы дзень, што яшчэ мацней заахвочвала выйсці на прагулку па горадзе. У звычайны дзень на базары няма вялікага руху, але пасля некалькіх дзён велікоднага адпачынку людзей сабралася мнагавата. Некалькі жанчын з усходу прапанавалі мне купіць гарэлку. Далей паглядзелі мы крамы армян, якія гандлююць у нас ужо некалькі гадоў. Пазней перайшлі мы ў сектар, дзе на зямлі раскладаюць свой тавар гандляры з Беларусі. Тут сустракаюцца знаёмыя ў твар карабейнікі. У аднаго „турыста" купіў я нават відэакасету за 5 зл. Ідучы далей заўважыў я групку п'яных мужчын. Адзін з іх папытаў у маладой беларускі пра цану папяросаў, потым узяў дзве пачкі цыгарэтаў, нешта прамармытаў і стаў адыходзіць. Гандлярка пабегла за ім, схапіла за вопратку і стала патрабаваць заплаты. Несумленны п'яніца адпіхнуў жанчыну, вылаяўся на яе нецэнзурнымі словамі і пайшоў далей. На рагу чакалі яго кампаньёны з нейкай жанчынай. Відаць, ім усім хацелася курыць. Усхваляваная беларуска вярнулася на сваё месца. Ніхто з гандляроў не адрэагаваў на гэтае здарэнне, не асудзіў злодзея. Усе памалу разышліся. А я падумаў: што можа яшчэ здарыцца, калі гэтаму тыпу скончацца папяросы?

**Славамір Кулік**

# Хто пацікавіцца?

На пачатку красавіка г.г. ехаў я цягніком з Беластока дахаты. Не даязджаючы да чыгуначнай станцыі ў Бельску, мая сяброўка так кажа: „Пакажу вам, пане Сідарук, месца, дзе чалавек пад голым небам качуе. Кажуць, што ўсю зіму там прасядзеў..."

Праехаўшы даўнейшыя збожжавыя склады Бельскага элеватара, зараз за агароджай стаяў нейкі будынчак, а побач распаленае вогнішча, з якога ўгару ўзнімаўся дымок.

Не змог я з цягніка ўгледзець сілуэт чалавека і бліжэй прыглядзецца качэўніцкаму будану.

Тое, што пачуў я ад сваёй спадарожніцы, так мяне пераканала, што чутка пра нейкага бяздомнага здаецца мне праўдзівай.

Хто ён такі? Якая доля заставіла гэтага чалавека так бадзяцца па сляпых закавулках горада?

Хто пацікавіцца качэўнікам? А мо ўлады горада Бельска-Падляшскага нешта больш скажуць нам пра гэтую справу?

**Уладзімір Сідарук**

# Арлянская апатыя

27 сакавіка г.г. у будынку Управы гміны ў Орлі адбылася 16-я сесія Гміннай рады, прысвечаная ўхваленню бюджэту Арлянскай гміны на 1997 год. У пасяджэнні, якім кіраваў старшыня Рады Яўген Зінкевіч, удзельнічала 14 радных (усіх народных абраннікаў у Радзе — 16).

Скарбнік Аляўціна Іваноўская зачытала распрацаваны Управай гміны праект бюджэту і прапановы да яго на гэты год. Ва ўраўнаважаным праекце (у якім даходы роўны выдаткам) сродкі ваяводы і Міністэрства фінансаў скалькуляваны былі на суму 2 514 863 зл. Уласныя даходы складаюць у бюджэце 1 393 044 зл. (55% бюджэтнага плана на 1997 г.). Гміна атрымае 904 249 зл. дзяржаўнай субвенцыі, у тым ліку 868 924 зл. на асвету (субвенцыя складае 36% плана). Дзеля выканання даручаных задач гміна атрымае 214 573 зл. (8,5% плана) датацыі. Такім чынам даходы гміннага бюджэту складуць 2 511 866 зл. і столькі ж запланавана выдаць у гэтым годзе. У інвестыцыйным плане на 1997 г. прадугледжаны рамонты дарог Шэрні—Малінікі (700 м), Вулька-Выганоўская—Рыгораўцы (700 м), будова дарог Вулька-Выганоўская—Маскоўцы (каля 700 м), кіламетр ваяводскай дарогі ў Спічках і 200 м дарогі ў Пашкоўшчыне, а таксама будова жыллёвага будынка (будзе яна працягвацца 3—4 гады) і купля пажарнай аўтамашыны. Кашторыс патрабуе на гэтыя мэты 1 209 тыс. зл. Аднак у плане не прадугледжаны працяг будовы новай амбулаторыі, якая пачалася ў 1989 годзе, і фундаменты якой падвяргаюцца разбуральнаму ўздзеянню часу. Старой амбулаторыі адведзена 2 тыс. зл.

Актыўнасць радных на сесіі была невялікая. Відаць, некаторыя страцілі веру ў сябе, паколькі іх пастулаты ў прынцыпе ігнараваліся. Аднак не ўсе маўчалі. **Васіль Майстровіч** з Рудут патрабаваў адрамантаваць дарогу з Рудут у Тапаркі (3 гады ніхто яе не папраўляў), а **Мікалай Куптэль** з Пашкоўшчыны — з вёскі на калёнію. Гэты апошні тройчы пастулаваў перадаць царкоўны пляц прыходу, але справу адтэрміналі на наступнае пасяджэнне. **Аляксей Тамчук** з Крывятыч закрануў нявырашаную справу вакцынацыі быдла, якая датавалася з гміннага бюджэту.

З ліку чатырох арлянскіх радных на сесіі прысутнічала трое, але актыўнасцю вылучаўся толькі **Мікалай Рангайла**. Патрабаваў ён прывесці ў парадак мясцовы паўстанак ПКС, прыбраць парк, устанавіць адпаведныя дарожныя знакі з думкай пра бяспеку моладзі, аднак гэтыя пастулаты не атрымалі належнай падтрымкі сабраных. Пэўнае ажыўленне выклікала ягоная прапанова сцягнуць падаткі ад нетэрміновых плацельшчыкаў.

Іншыя арлянскія радныя абмежаваліся да пастулата аб папаўненні вулічнага асвятлення на вул. Міцкевіча (радны **Славамір Сахарэвіч**, жыхар гэтай вуліцы) і канстатацыі, што прадстаўленыя пастулаты дастаткова ўжо абмеркаваны на пасяджэнні Управы гміны (радны **Аляксандр Шыманскі**). Двое радных з навакольных вёсак прапанавалі павысіць 70-златовую дыету (камандзіровачныя), але Мікалай Рангайла выказаўся за яе паніжэнне да 50 зл. Абедзве прапановы не былі раднымі падтрыманы.

На канец сесіі ўдалося мне запытацца ў старшыні рады і войта пра кампетэнцыі радных, пра іх магчымасці ўплыву на кіраванне гмінай. Цікавіла мяне таксама, ці радныя ведаюць свае правы і абавязкі, ці забяспечаны яны адпаведнай літаратурай. Войт наконт літаратуры адказаў мне наступным чынам: „Няма і не будзе, не маем грошай на х..."

**Міхал Мінцэвіч**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Беларускі саюз

Беларускі саюз з'яўляецца федэратыўнай структурай сямі беларускіх арганізацый: Беларускага аб'яднання студэнтаў, Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Беларускага гістарычнага таварыства, Асацыяцыі беларускіх журналістаў, Беларускага культурнага таварыства „Хатка" ў Гданьску, Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва", Літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Членам Саюза не можа быць асоба фізічная, толькі арганізацыя.

Сітуацыя нашай меншасці ва ўсіх галінах грамадскага жыцця ўскладняецца і, на жаль, прыходзіцца нам сачыць хутчэй за ўсё за зменшваннем нашай нацыянальнай прасторы.

У выніку рашэнняў папярэдняга З'езда, найбольш увагі ў нашых дзеяннях адводзілася пашырэнню доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Са студзеня 1995 г. пачаліся намаганні па стварэнню тэлевізійных перадач на беларускай мове. У жніўні 1995 года ўпершыню з'явіліся яны ў польскім тэлебачанні. Дзякуючы прыхільнасці тадышняга кіраўніцтва тэлебачання эфірны час эмісіі быў павялічаны да дваццаці хвілін у месяц. Разглядаліся планы стварэння беларускай рэдакцыі ва ўзнікаючым беластоцкім асяродку. Зараз сітуацыя ўскладняецца. Беластоцкае кіраўніцтва тэлебачання спачатку не хацела слухаць аб перадачах на беларускай мове. У выніку нашых зваротаў ва Управу гэтай установы, сеймавую Камісію па справах нацыянальных меншасцей, Краёвую раду радыёвяшчання і тэлебачання — атрымалі мы 11-хвілінную тэлеперадачу ў тыдзень. Справа аўтаномнай беларускай рэдакцыі будзе ў цэнтры ўвагі кіраўніцтва Саюза.

Павелічэнне эфірнага часу ў тэлебачанні было б немагчымае, каб не падтрымка дзесяці тысяч жыхароў Беласточчыны, якія склалі свае подпісы пад петыцыяй, накіраванай уладам TVP. За прыхільнасць і дапамогу трэба тут падзякаваць архіепіскапу Саве, святарам, дырэктарам і вучням Бельскага і Гайнаўскага ліцэяў, дырэкцыі Пачатковай школы № 3 у Бельску-Падляшскім.

Паралельна мы выступалі таксама за павелічэнне часу беларускіх перадач у Радыё Беласток. У выніку размоў са старшынёй Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання Баляславам Сулікам і прэзасам Беластоцкага радыё Ежым Мушынскім — можна спадзявацца павелічэння часу радыёперадачы „Пад знакам Пагоні". У ходзе дыскусіі вакол тэлебачання некаторыя беларускія дзеячы заяўлялі, што „передачы на беларускай мове не найважнейшыя і непатрэбная асобная беларуская рэдакцыя". Можам належаць да розных арганізацый і мець свае палітычныя сімпатыі, але называючы сябе беларусамі нельга адмаўляцца ад належных нам грамадзянскіх правоў.

Справай, на якую звярталі мы пастаянна ўвагу — гэта ход падзеяй у Рэспубліцы Беларусь. Зыходзячы з асноўных прынцыпаў дэмакратыі і пашаны для грамадзянскіх правоў, выказвалі мы ў форме заяў занепакоенасць лёсам беларускага суверэнітэту, парушэннямі правоў чалавека. Гэта наш маральны абавязак і адказнасць за лёс нацыі як цэласці, нягледзячы на месца пражывання.

На працягу двух апошніх гадоў Беларускі саюз рэалізаваў цыклічныя мерапрыемствы, такія як: Агульнапольскі конкурс паэзіі і прозы „Дэбют", Польска-беларускія літаратурныя варштаты „Бязмежжа", Дыскусійны семінар „Беларусы Бельшчыны". Пад арганізацыйнай апекай Саюза знаходзіцца распрацаваны Дарафеем Фіёнікам і Яўгенам Вапам праект „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа".

Беларускі саюз дамагаўся стварыць пры беластоцкім ваяводзе інстытут упаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей. З ідэяй стварэння такой установы выступілі мы летам 1995 г.

У выніку такая ўстанова была створана. Нашы спадзяванні разышліся аднак з рэальнымі дзеяннямі новапрызначанага ўрадніка. Яго актыўнасць часта зводзілася да паменшвання ролі беларусаў на Беласточчыне. Мы адмоўна ацанілі такую дзейнасць, складаючы на рукі беластоцкага ваяводы наш пратэст. Ад лютага г.г. няма ўжо ўпаўнаважанага, але праблемай надалей застаецца выпрацаванне механізмаў для ўсебаковага разгляду спраў, якія турбуюць нашу меншасць на ўзроўні ваяводства. Маю на ўвазе не толькі культуру, але перш за ўсё гаспадарчае ажыўленне на гэтак званай „Усходняй сцяне", на якой прыходзіцца беларусам адджываць свой век без больших перспектыў на паляпшэнне лёсу.

Як паказала практыка, там толькі прысвячаецца ўвагу беларусам, дзе ў гмінных структурах знаходзяцца людзі, якія ў выбарах выступалі пад беларускай шыльдай. Таму хачу падзякаваць самаўрадавым дзеячам за тое, што яны робяць для нашага нацыянальнага існавання. І прашу прыняць словы прабачэння за тое, што не адводзілася гэтым справам, мабыць, належнай увагі.

Жыццё выразна паказала, што без гміннай палітыкі не будзе нацыянальных поспехаў. І другі, па-мойму, самы важны накірунак у нашай дзейнасці на наступныя гады — гэта асветна-адукацыйныя праблемы. Без нацыянальнай адукацыі — можам апынуцца ў ролі меншасці, асуджанай на знікненне.

У апошні час атрымалі мы сродкі з Міністэрства адукацыі на арганізаванне метадычных канферэнцый для настаўнікаў, якія будзем ладзіць супольна з Беларускім гістарычным таварыствам і Грамадскай камісіяй па справах рэформы школьніцтва пад кіраўніцтвам Васіля Ляшчынскага. У бліжэйшы час будзе створана пры міністры нацыянальнай адукацыі Кансультацыйная рада нацыянальных меншасцей.

Кандыдатамі Беларускага саюза ў Раду прапанаваліся Васіль Ляшчынскі — дырэктар Пачатковай школы № 3 у Бельску-Падляшскім і Яўген Сачко — дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

Перад новымі ўладамі Беларускага саюза шмат праблем, выпрабаванняў, асабліва таму, што ў гэтым годзе чакаюць нас парламенцкія выбары. Ведаем ад 1989 г., што без свайго прадстаўніка ў Сейме, мы проста трацім шанц на нармальнасць.

**Яўген Вапа**

*Фрагменты выступлення старшыні Беларускага саюза на III з'ездзе арганізацыі.*

# Нямецкая прапаганда на Беларусі

На пачатку гэтага года ў Берліне была адкрыта выстаўка „Нямецкая прапаганда на Беларусі 1941—1944". У лютым выстаўка была перанесена ў Менск, а ў далейшым плануецца паказаць яе ў Гародні, Берасці і, магчыма, іншых гарадах Беларусі. Нечакана матэрыялы, якія кампраметуюць нямецкі фашызм часоў II сусветнай вайны, з вялікімі цяжкасцямі могуць пабачыць жыхары Беларусі. У Менску, як інфармавала газета „Свабода", выстаўку хутка закрылі, у Гародні арганізатары ўсё яшчэ чакаюць дазволу на яе адкрыццё. Паводле менскіх каментатараў, непрыхільнасць да выстаўкі з боку ўлад выклікае вялікае падабенства канструкцыі прапагандысцкай сістэмы рэалізаванай у Беларусі ў 1941-1944 гадах і ў сучаснасці.

Выстаўку падрыхтавала Таварыства сувязей Германіі з краінамі былога Савецкага Саюза „Кантакт", Свабодны ўніверсітэт Берлін, Нацыянальны архіў Беларусі, Нацыянальны архіў фотадакументаў Беларусі, Музей гісторыі Вялікай Айчынай вайны ў Менску.

Каталог* выстаўкі, які налічвае 80 старонак дакументаў і каментарыяў, прадстаўляючых нямецкую прапаганду і рэчаіснасць перыяду акупацыі на Беларусі, выклікае вельмі сумнае ўражанне. Праз прызму прапаганды таго часу відаць, што абодва змагаючыяся бакі — нямецкі і савецкі — глядзелі на беларусаў як на нейкую сацыяльную масу. Немцы найчасцей паказвалі камунізм у выглядзе Сталіна і яўрэя, якія адбіраюць плён працы беларускага селяніна і рабочага. Германскі салдат, выключна ў выглядзе маладога і здаровага мужчыны, найчасцей выступаў там як абаронца працоўных мас Беларусі. Гітлераўцы, не парушаючы асноўных прынцыпаў сталінскай даваеннай прапаганды, разлічвалі, што паказваючы станоўчы вобраз акупацыі выяўлены ў прэсе, плакатах, кніжках, радыёперадачах, мастацкіх і дакументальных фільмах можна нейтралізаваць кашмарную рэчаіснасць — масавыя расстрэлы, тэрор паліцэйскіх службаў, прымусовае перасяленне маладых людзей у Нямеччыну ў выглядзе бясплатнай рабочай сілы. Прапаганда тым часам працавала над фарміраваннем вобразу акупаванай Беларусі, згодна з лозунгам, прыдуманым генеральным камісарам „Вайсрутэніі" Вільгельмам Кубэ: „Вашы дзеці, унукі будуць жыць шчаслівей чым вы".

У каталогу змешчана таксама некалькі здымкаў, адлюстроўваючых жыццё савецкіх партызан. Нават у засыпаным снегам лесе віднеюць замацаваныя на дрэвах партрэты Сталіна і лозунгі сугучныя з прадуктамі гітлераўскай прапаганды.

Некалькі месяцаў да нападу Германіі на Савецкі Саюз гебельсаўскае міністэрства прапаганды падрыхтавала вялікімі тыражамі ўсялякія прапагандысцкія кнігі, брашуры, плакаты, сцэнарыі радыёперадач. Пры генеральным штабе Вермахта былі створаны спецыяльныя ўпраўленні па справах прапаганды, а адпаведныя ім структуры былі ў кожнай арміі. Некалькі соцень афіцэраў яшчэ да вайны разглядала ўсе пытанні менталітэту беларусаў, расейцаў, украінцаў, літоўцаў ды іншых савецкіх народаў. Калі нямецкая армія апынулася ў межах Беларусі, яе прапаганда карысталася лозунгамі, якія раней былі выпрацаваны для дакладна акрэсленага адрасата. Упраўленні і аддзелы прапаганды былі створаны таксама ў апараце гестапа і контрразведкі. У гэтую сістэму была ўключана перш за ўсё акупацыйная адміністрацыя. Грамадскае, культурнае, асветнае жыццё, прэса працавалі пад кантролем павятовых камісараў прапаганды. У Беларусі ў 1941-1944 гадах выдавалася 36 газет на беларускай мове. Пасля вайны Сталін не дазволіў, каб яго прапаганда была горшай за нямецкую. Пры канцы саракавых гадоў амаль увесь друк у Беларусі працаваў на беларускай мове. Толькі пры Хрушчове савецты вярнуліся да палітыкі канца трыццатых гадоў — знішчання ўсяго, што нечым напамінала беларускую нацыянальную спадчыну.




*Рэклама „Новай аграрнай праграмы" акупацыйных улад ад 15 лютага 1942 г.*

**(ям)**

**Нямецкая прапаганда на Беларусі 1941—1944. Канфрантацыя паміж прапагандай і рэчаіснасцю*, Берлін 1996, сс. 80.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Паэзія — духоўны пажытак

12 сакавіка г.г. Беларускі ліцэй у Гайнаўцы наведала паэтэса Надзея Артымовіч. Прыбыла яна па запрашэнні гуртка польска-беларускіх спраў, якім апякуецца настаўнік гісторыі Яўген Вапа. Госця чытала вучням і настаўнікам свае вершы і адказвала на іхнія пытанні. У ходзе сустрэчы сабраныя даведаліся, што паэтэса святкуе 25-годдзе творчай працы. Расказала яна таксама пра важнейшыя здарэнні са свайго жыцця. Больш за дзесяць гадоў з'яўляецца яна членам Саюза польскіх літаратараў.

Паэтэса прызналася, што піша нерэгулярна, а вершы ўзнікаюць незалежна ад яе асабістых перажыванняў. Піша ў розных умовах і здараецца, што да нейкага верша вяртаецца нават пасля пяці гадоў, каб нанесці да яго папраўкі — часам бывае гэта толькі адно слова. Спадарыня Артымовіч пацвердзіла, што ў вершах запісвае не толькі сябе, але і іншых людзей. „Цяжка адкрываць сябе, не заўсёды гэта магчымае", — сказала паэтэса. Пра свой родны горад яна выказалася наступным чынам: „Бельск — гэта перш за ўсё людзі, а гэтых ужо няма".

На заканчэнне сустрэчы вучні адорылі госцю букетам кветак, а паэтэса аддзячыла сабраным аўтографамі на паэтычным зборніку „Сон у белых пейзажах". Беластоцкае тэлебачанне падрыхтавала рэпартаж з гэтага спаткання.

Мяркую, што такія мерапрыемствы проста неабходны ў наш час, у эпоху камерцыялізацыі ўсяго нашага жыцця. А да сустрэчы з паэзіяй хопіць трохі спакойнай атмасферы і паэтычны зборнік.

**Славамір Кулік**
*Фота аўтара*



*Вучань класа III „б" Тамаш Саевіч просіць паэтэсу ўпісацца ў памятную кніжку.*

# Найлепшыя беларусісты з ліцэяў

2 красавіка ў Доме настаўніка ў Бельску-Падляшскім закончылася трэцяя Алімпіяда беларускае мовы для вучняў сярэдніх школ, арганізаваная Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Ва ўсіх яе этапах прыняло ўдзел 154 асобы з бельскага і гайнаўскага беларускіх ліцэяў (летась — 90 асоб, а два гады таму — 47 і толькі з Бельска). Праз школьныя і акруговыя элімінацыі прайшлі семнаццаць найлепшых — дзесяць з Бельска і сем з Гайнаўкі — якія і сустрэліся ў фінале. Тут яны на пісьме дзяліліся сваімі ўражаннямі ад верша Уладзіміра Някляева, а затым вусна адказвалі на пытанні камісіі. Ацэньваліся веды па літаратуры, практычнае карыстанне моваймі і арыгінальнасць выказвання.

У апошнім бесканкурэнтным, — паводле члена камісіі, метадыка навучання беларускай мовы Ніны Абрамюк, — быў Тамаш Саевіч з Гайнаўкі. Аднак, у цэлым узяў ён трэцяе месца, разам з сяброўкай са школы Анджэлінай Раманчук. Другое месца падзялілі між сабою Івона Кананюк, Кацярына Аўсейчук (абедзве з Бельска) і Юстына Ляшкевіч з Гайнаўкі. Перамаглі вучні Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча Марта Алексюк і Тамаш Сахарчук.

Уся сямёрка лаўрэатаў, калі зажадае паступіць на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта, будзе прынята без ніякіх экзаменаў ці адборачных размоў. На іншыя гуманітарныя напрамкі вышэйшых школ лаўрэаты могуць быць звольнены з экзамена па замежнай мове, але залежыць гэта ад экзаменацыйнай камісіі.

— Калі Рэспубліка Беларусь уваходзіць сёння ў унію з Расеяй, — сказаў беларускай праграме Беластоцкага тэлебачання старшыня камісіі, загадчык Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта праф. Аляксандр Баршчэўскі, — гэта даведзе да яшчэ большага зніжэння прэстыжу і рангу беларускай мовы ў Беларусі. Масавы ўдзел у нашай алімпіядзе — гэта свайго роду пратэст супраць таго, што адбываецца цяпер у Беларусі.

**М. В.**

# „Карткі" ў Гайнаўцы

Першы сёлетні нумар літаратурна-мастацкага часопіса „Kartki" дайшоў ужо і ў Гайнаўку. 15 сакавіка г.г. у Гарадской бібліятэцы адбылася прамоцыя гэтага выдання з удзелам Багдана Дудко і Міколы Ваўранюка. На пачатку мерапрыемства вучні мясцовага беларускага ліцэя Мацей Сніткоўскі, Юліта Адамюк і Тамаш Саевіч у поўнай настрою атмасферы чыталі паэзію Алеся Разанава. Паэтычнасці бібліятэчнай зале з кніжнымі паліцамі прыдавалі развешаныя па ўсім памяшканні чыстыя карткі паперы і цьмянае святло. Бібліятэка падрыхтавала адмысловую выстаўку, прысвечаную „Карткам".

Багдан Дудко і Мікола Ваўранюк пазнаёмілі сабраных з навейшым нумарам выдання, у якім многа месца адведзена сучаснай беларускай літаратуры і адказвалі на пытанні публікі. А ў зале сабралася некалькі дзесяткаў чалавек, сярод якіх была і бурмістр горада спадарыня Ядвіга Рудзінская-Патэюк. Выказала яна вялікае прызнанне для стваральнікаў „Картак", асабліва за комплексны падыход да беларускай культуры на старонках часопіса (прэзентуюцца ў ім літаратура, музыка, мастацтва, фатаграфія). На заканчэнне бібліятэкары падзякавалі галоўнаму рэдактару „Картак" Багдану Дудко і падаравалі яму паэтычны зборнік „Zapisać siebie", выдадзены ў 1995 годзе Таварыствам любіцеляў Гайнаўкі і Гарадской публічнай бібліятэкай.

**Славамір Кулік**

# Вайна за мяжу

Лявон Макух, гадоў 43, жыве на хутары самотна, адзінокі як палец. Каб не сука Сара і тэлевізар, то з нуды памёр бы. Час ад часу, як на лякарства, парнаграфічны часопіс з Беластока прывязе. На арэхавай шафе красуецца кучка „непрыстойнай" літаратуры.

— Кожны мае нейкія зацікаўленні, — кажа Макух. — Адзін збірае маркі, іншы мяняе аўтамабілі. А так, хлопцы з Д. прыйдуць, пра паненкі пагаворым, пасмяемся.

Гаспадар з Макуха нетыповы. Звычайны дзень з піцця кавы пачынае.

— Пазней іду ўпраўляцца. Кармлю бычкоў, авечак, курэй.

Свіней і кароў Макух не трымае, „бо гэта бабская жывіна", — мяркуе ён. Гаспадарка ў Макуха дагледжаная, поле заараная і абсеенае.

— Толькі тая прыблуда жыць не дае, — паказвае са злоснай усмешкай на схаваную ў хмызах хату суседа, Мікіты Вожыка.

Мікіта Вожык, 46 гадоў, народжаны пад знакам Барана.

— У Д. папаў я з-за вялікага кахання, — гаворыць сам пра сябе.

А на вёсцы паясняюць: „Той, што з газеты выпісаны".

У хаце Вожыка тры незамужнія дачкі і сварлівая цешча. А жонка ў немца маркі зарабляе. Ужо дванаццаты год зарабляе валюту і ў Д. нават на Вялікдзень не завітае.

Звычайна дзень у Вожыка пачынаецца з лаянкі. Першую страву ледзь пераглынуць яму дамавікі дазваляюць. Усё да работы гоняць.

— Недзе а першай пасля абеду пачынаю снедаць, — кажа Вожык.

Вайна паміж Макухам і Вожыкам цягнецца безупынна. Раней за мяжу сварыліся бацькі Макуха і Вожыкавай жонкі.

— Ён першы мне пераараў, — кажа Мікіта Вожык. — Пэўна за тое, што я з яго суседкай ажаніўся.

— Няпраўда, — пярэчыць Лявон Макух. — У 1976 годзе ён перакасіў мой луг на пяць пакосаў. Каб не дагледзеў і не дагроб, то мая сеўка прапала б, пяць вялікіх пакосаў!

А цераз два гады вайна зноў успыхнула.

— У 1978 г. ён пераараў мне на паўтары метра, — кажа Мікіта Вожык. — То і я не сядзеў. Паадкідаў свае скібы і геадэзіста паклікаў. Той, праўда, не надта справядліва памераў. Выйшла, што мне належыла толькі метр дваццаць.

Вожык не верыць у справядлівасць геадэзіста.

— Каб у мяне грошы былі, то і праўда па маёй старане была б.

Так і не адвяваў трыццаці сантыметраў.

— То ён мне ў наступным годзе мяжу заараў, — успамінае Лявон Макух. — Тады я рашыў судзіцца, бо гэтая мяжа ад вякоў супольнаю была.

У адказ на рашэнне Макуха Вожык абкідаў яго каменнем, на маці Макуха, старэчу, лаяўся.

— Я б яго ўміг знішчыў, — хвалюецца яшчэ сёння гэтым успамінам Макух. — Але слабейшых не б'ю. Яго і так лёс пабіў. Во, жонка да немца ўцякла!

Гэтая апошняя звестка найбольш радуе Лявона Макуха.

— Ён не наш, прыблуда, — папаўняе мой субяседнік пра Вожыка. — Каб мужчынам быў, то не дазволіў бы, каб бабы ім *жондзілі*. У 1982 ён мне зноў заараў на тры метры. Ды і каменне са свайго поля на маё перацягнуў. Я, каб у Бога не верыў, то забіў бы яго за тое! Маці ад сваркі тае памерла, — наракае Макух.

— Плюньце на яго мову, — нервова ўспрымае гэтыя словы Вожык. — Ён тады ў маіх кароў ланцугі пазнімаў. Жывіна агарод увесь пацерабіла. Жонка два месяцы спакою не давала.

— Найгорш стала, як яго жонка да немца паехала, — прадаўжае варожы матыў Макух. — Бо гэты чалавек не мае цяпер з кім сварыцца! Дочкі яго не слухаюць, свякруха лае і хавае грошы. Адно што на жывіне і мне сваю злосць зганяе. Гэтай вясной зноў пераараў мне на пяць метраў.

Мікіта Вожык не каменціруе апошняга замаху на зямлю суседа.

— Хай наймае геадэзіста, — смяецца ён. — Цяпер лазерам мераюць. Да аднаго сантыметра вымераюць.

Свякруха Вожыка, засушаная бабуля, нічога не ведае пра сварку суседзяў.

— Мне бы памерці хутчэй, — кажа яна. — А то навары ўсім, абмый. Унучак да работы калом ганяць трэба. Адно тэлевізар глядзяць і кніжкі чытаюць.

Мікіта Вожык махае рукамі на развітанне.

— Што тут напішаш, — кажа ён, — нішчаць чалавека ў белы дзень!

У Д. — вёсцы з крамай і поштай, з усмешкай гавораць пра канфлікт суседзяў.

— Замнога па начах тэлевізар з голымі бабамі глядзяць, — кажа сустрэтая жыхарка Д. у фільцах. — І жонак няма, — дадае яна.

— У нас таксама браты за плот ваююць, — кажа гаспадар з Д. — З сякерамі на сябе замахваюцца.

— Каб вы ведалі, як мы тут гаруем, — плача пенсіянерка з хаты, дзе ваююць за плот. — Ні куркі, ні гусяняці не ўтрымаеш, бо ўсё камянямі павыбіваюць.

У хаце, дзе выбіваюць суседавых курэй і гусей, таксама наракаюць.

— Тут ніколі дабра не будзе. Яны вачамі ўсё наша дабро паелі б, — кажуць пра суседзяў-сваякоў.

Аказваецца, і ў іх не можна прыдбаць курыцу ці гусянятка. І ў іх з-за суседзяў адны лаянкі і бяда.

І што тут дабавіш? Беларуская вёска яшчэ не памерла!

**Ева Сцепанюк**

*P.S. Імёны герояў зменены.*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Вучні з настаўніцай беларускай мовы Надзеяй Аврчук.

# Спартсмены і выдатнікі з Кнарыд

Вясной як ніколі хочацца гуляць у мяч, спартыўныя гульні, ездзіць на ровары.

На перапынку ў Пачатковай школе ў Кнарыдах аж кіпела ад дзіцячай энергіі. Адны гулялі ў настольны тэніс, іншыя бегалі побач школьнага будынка, яшчэ іншыя весела гаманілі і смяяліся. Перад школай прывіталі мяне сімпатыкі „Зоркі". У Кнарыдах дзеткі добра ведаюць нашу газетку. У школе многа энтузіястаў зорчыных конкурсаў. Беларускую мову вывучаюць тут ад нядаўна. Адрадзілася яна, калі ў школе з'явіліся раней-шыя навучэнцы з Дубяжына. Гэтаму прадмету навучае спадарыня Надзея Аврчук.

— Школа ў Кнарыдах жыве спортам, — кажа настаўніца.

На доказ гэтых слоў дзеці расказвалі пра спартыўныя зацікаўленні. У трэцім і чацвёртым класах многа энтузіястаў гонак.

— 8 красавіка, — кажуць дзеці, — адбудуцца *заводы* (спаборніцтвы) для ганцоў. Мае сябры з Кнарыд не могуць дачакацца гэтага мерапрыемства. Многія з іх прымуць удзел у гэтым спартыўным свяце.

Дзеці захвалялі не толькі гонкі. Хлапчукі абавязкова адзначылі гульню ў футбол, а ўсе апошнія ўспомнілі пра баскетбол, валейбол, лапту (palant), настольны тэніс і велагонку. Трэба спадзявацца, што ў Кнарыдах растуць будучыя чэмпіёны ва ўсіх відах спорту.

Ужо Андрэй Бандарук, Мар'юш Тамчук і Дарэк Екацярынчык маюць немалыя поспехі ў настольным тэнісе. Андрэй — лаўрэат II месца на гмінных спаборніцтвах, за ім Мар'юш — лаўрэат трэцяга месца гэтага ж конкурсу. Хлапчукі разам з Даркам калектыўна заваявалі таксама другое месца ў гмінных спаборніцтвах па настольным тэнісе.

Нагаварыўшыся пра спорт, мы перайшлі да беларускай мовы.

— Многа дзяцей сістэматычна і салідна працуе, — адзначыла спадарыня Аврчук.

Яна назвала выдатнікаў, сярод якіх апынуліся: Кася Ярашэвіч, Юліта Тамчук, Эля Алексяюк, Андрэй Бандарук, Мар'юш Тамчук.

Варта згадаць, што ў другім класе ўсе дзеткі ходзяць на ўрокі беларускай мовы і ўсе яны выдатнікі. Другакласнікаў нямнога, толькі чатыры асобы: Моніка Раманюк, Уля Алексяюк, Мар'юш Ярашэвіч, Станіслаў Раца. І хаця дзеткі першы год вывучаюць беларускую мову, *як старыя* ўдзельнічаюць у зорчыных конкурсах і часта становяцца лаўрэатамі.

Сярод новых энтузіястаў беларускай мовы апынуўся вучань чацвёртага класа, Арэк Цар.

— Раней я не хадзіў, бо ў гэтай групе не было маіх сяброў, — кажа гаваркі хлопец.

Разам з Аркам пачаў хадзіць яго сябра, Дарак. На сустрэчы з „Зоркай" Арак паставіў многа цікавых пытанняў. За ім пайшлі і іншыя дзеткі. У выніку атрымалася сімпатычная і цікавая сустрэча.

Зараз у Кнарыдах усяго 69 вучняў. 30% дзяцей вывучае беларускую мову. Спадарыня Надзея Аврчук хваліць сваіх навучэнцаў:

— Яны напэўна ніколі не будуць цурацца роднай мовы!

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*


*Малюнак да „Казкі пра цецерука Балбатуна".*
Марта СЕРГЯЮК з Локніцы, III кл. ПШ у Крывой.

# Вайна 1812 года ў Беларусі

На пачатку XIX стагоддзя амаль цэлая Еўропа апынулася ў руках французскага імператара Напалеона. У 1812 годзе толькі Англія, Расея і Швецыя не былі прымушаны падпісваць сяброўскіх дагавораў з французамі. Англічан ад захопнікаў традыцыйна ахоўвалі марская прастора і магутны флот. Швецыя ў нічым не пагражала французскім інтарэсам. Непазбежнай аказалася тады вайна паміж аб'яднанай французамі Еўропай і Расеяй, у межах якой знаходзілася таксама Беларусь.

Пры канцы чэрвеня 1812 года звыш 600 тысяч французаў, немцаў, палякаў, італьянцаў, аўстрыйцаў рушыла цераз Беларусь у напрамку Масквы. На пачатку стагоддзя ў рэкруты расейскай арміі было прызваных 130 тысяч беларусаў. Служба ў гэтым войску працягвалася 25 гадоў. Большасць беларусаў служыла ў арміі генерала Міхаіла Барклая-дэ-Толі, якая першай стрымлівала марш французскіх войск і найбольш пацярпела ў першых бітвах.

Французы, якія летам захапілі ўсю Беларусь, патрабавалі перш за ўсё харчовых прадуктаў для сваёй вялікай арміі. Харчы забірала з сабою адступаючае на ўсход расейскае войска. Ужо восенню аграбленае чужымі салдатамі беларускае насельніцтва цярпела ад голаду. За зіму, у выніку голаду, хвароб і здзекаў з боку акупацыйных армій загінула амаль 40 працэнтаў беларускага насельніцтва. Беларусы, хаця і не прымалі ўдзелу ў гэтай вайне ані як нацыя, ані як дзяржава, пацярпелі найбольш.

Французы ахвотна бралі таксама беларускіх хлопцаў у рады свае арміі. На баку Напалеона змагалася 25 тысяч беларусаў. Пад Смаленскам і Барадзіно — у ходзе вялікіх бітваў гэтай вайны — стралялі яны ў сваіх братоў, прымушаных служыць у расейскім войску. Зімою 1813 года цераз тэрыторыю Беларусі вярталася разбітая і дэмаралізаваная напалеонаўская армія. За ёю ішлі пераможныя палкі генерала Міхаіла Кутузава. Яшчэ раз па беларускай зямлі пералілася пякельная хваля.


*Пасля заняткаў у Чаромсе-вёсцы.*
Фота Міколы ВАЎРАНЮКА



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Чорт Злодзей

*(беларуская народная казка)*

Жылі сабе дзед ды баба. Бедна жылі. Аднойчы пайшоў дзед у поле араць. Араў-араў ды захацеў ён есці. Выпраг кабылку, пусціў яе на луг, а сам выняў праснак і пачаў яго есці. Непадалёк балота стаяла. Там, гаварылі людзі, чартоўскае каралеўства знаходзілася. І праўда, выпаўз з таго дрыгвяніку чорны клубок і пачаў вакол каня кружыцца. Кінуўся дзед каня ратаваць. Адагнаў пугою чорную з'яву, угаварыў каня і вярнуўся на поле. Аж бачыць — праснак прапаў. Стаў дзед хадзіць, наракаць, да краю балота падышоў. Бачыць, дарога на балоце для яго зрабілася. Ступіў дзед, ідзе з дрыжачым сэрцам і думае што будзе. Ішоў-ішоў, зайшоў да самага старшага чорта.

— Дзе мой праснак? — пытае дзед.

— Шукай у маладых, старыя чэрці такім не займаюцца.

І дзед загадаў маладым чарцянятам раты раскрыць. У аднаго свой праснак убачыў.

— Во, во, — мой прасначок, — узрадаваўся стары.

— Навошта ты беднага чалавека абакраў — абурыўся старшы чорт. — За кару служыць да дзеда пойдзеш! На год часу цябе пасылаю!

Не было рады. Пайшоў малады чорцік за парабка да дзеда. У доброга малойчыка перамяніўся, дужага і вясёлага.

— Ого, — думае дзед. — Такога накарміць добра трэба, у нас старых яды не хапае. Як жа мы ладзіцца будзем?

— Не бядуй, чалавеча, — адказаў на яго думкі малады чорт, — толькі ідзі да суседа і пазыч жменю пшаніцы.

Стары так і зрабіў. А чорт пайшоў да жорнаў, стаў пшаніцу малоць. Малоў-малоў, на ўвесь год мукі з аднае жмені намалоў. На другі дзень пайшоў чорт зямлю араць. Туды-сюды павярнуўся, мігам усё поле зaараў.

— Цяпер ідзі дзед да пана і папрасі ў яго жменю жыта, пшаніцы, аўса, грэчкі і ячменю. Скажы, што ўраджай падзелім.

Зайшоў дзед да пана і кажа:

— Няхай пан ураджай вазамі возіць, а я буду ношкамі насіць.

Пан сабе думае: „Што то воз, а што ношка! Усё-такі воз большы!" Даў пан збожжа дзеду не па жмені, а па мяшку, усяго. Ужо і жніва настала. Запрог пан пяць вазоў і паслаў сваіх парабкаў дзедаў ураджай сабе звозіць. Наклалі панскія слугі поўныя вазы пшаніцы, жыта, аўса, грэчкі, ячменю і едуць задаволеныя к пану. Тым часам чорт пачаў па снапку збожжа складаць у малыя ношкі.

— За тры месяцы сваімі ношкамі не паносіш, — смяюцца з чорта панскія слугі. — Мы зараз вернемся і ўвесь ураджай за два дні пазбіраем.

— Добра, — засмяяўся пад носам чорт. — Я на вас тут чакаць са сваімі ношкамі буду.

Прыехалі слугі па збожжа і раты разявілі. Бачаць, увесь ураджай юнак паклаў на малыя ношкі і нясе сабе ў стадолу.

— Цяпер дзед па дровы паеду, — кажа чорт. — Толькі пашлі мяне ў бор, дзе дубы старыя, магутныя.

Паехаў у бор. Наваліў калод з карэннем чуць не пад неба, сеў на воз і вязе, ды так вязе, што і чатырма каньмі не дагоніш! Пабачыў тое дзіва пан, затрымаў чорта і кажа:

— Давай каней мяняць!

— Давай, — згадзіўся юнак.

І памяняў ён дзедаву кабылку на чацвёрку буланых коней.

— Эй, дзед, адчыняй вароты, дровы вязу!

— Што ж ты, — кажа дзед, — на чужых конях прыехаў. У мяне сена няма!

Пайшоў чорт да пана малаціць, сена зарабляць. За дзень усё збожжа памалаціў. Пан узрадаваўся. Пачаставаў чорта, накарміў хлебам, сырам, вяндлінай.

— Не далі б вы, панок, мне ношачку сена, — папрасіў чорт-парабак.

— А ідзі і скубі сабе, колькі трэба, — адправіў чорта пан.

Чорт пайшоў, абматаў стог вяроўкамі і панёс дахаты. Пабачыў гэта пан і загадаў слугам два бадлівыя быкі на дзівака пусціць. Выпусцілі тыя валоў, а чорт іх за вушы, на стог і панёс!

— Ах каб яго! Пусціце яшчэ два парсюкі, хай яму лыткі абарвуць!

Чорт і парсюкоў за вушы, ды на плечы і нясе. Прыносіць, сена ў гумно палажыў, а парсюкоў і валы ў хлявы загнаў.

І стаў з тае пары жыць дзед пагаспадарску. Праслужыў чорт год і кажа:

— Адпраў, дзед, мяне дамоў!

— А ідзі з Богам!

Чорт зноў яго просіць:

— Пусці дзядуля да хаты!

А дзед як раззлуецца:

— А ідзі ты, — кажа, — к чорту!

Чорт зарагатаў толькі і пабег. Вось і казцы канец.

**Апр. Зорка**

# Чыжыкі

Назва вёскі Чыжыкі пайшла ад таго, што даўно таму быў вялікі бор, а пасярэдзіне таго бору стаяў дом лесніка. У паляўнічым двары жыў ляснік са сваёй сям'ёй.

Аднойчы прывёз ён з горада для дзяцей птушак у клетцы. Гэта былі чыжыкі.

Дзеці пасябравалі з птушкамі. Аднойчы задумалі яны пусціць іх на волю. І тады на працягу года ў бары завяліся чыжыкі. Многа было гэтых птушак, чыжыкаў. Таму і пайшла назва вёскі, якая сялілася побач лесніковага двара.

Гэта расказаў мне мой дзед.

**Эмілька Місяйчук**
**VIII кл. ПШ у Новым Корніне**

**Сцэнарый дзіцячага дня нараджэння**

# „Веснавыя ключыкі"

*(заканчэнне; пачатак у 13 нумары)*

**Вядучая**: Ну, вось, мы ўсе і вызваліліся і знайшлі на парозе нашай турмы яшчэ адзін ключык! Колькі іх цяпер у нас?

**Дзеці**: Пяць!

**Вядучая**: Колькі трэба яшчэ знайсці?

**Дзеці**: Два!

**Вядучая**: Зіма — вельмі неахайная і лянівая гаспадыня. У яе падземным палацы зваленыя ў кучу самыя розныя рэчы. У адной з такіх кучаў Зіма і схавала шосты ключык. Мы павінны ўсе гэтыя рэчы перабраць. Вось бачыце гэты паднос, накрыты хусткай? Кожны з вас будзе падыходзіць сюды, я на пяць секундаў буду здымаць хустку, пасля зноў накрыю ей паднос. А вам трэба будзе пералічыць, якія рэчы ўбачылі на падносе.

*На падносе кладзецца ключ і некалькі дробных прадметаў. Дзеці па чарзе спрабуюць іх пералічваць пасля пяцісекунднага назірання. Нарэшце нейкаму гэта ўдаецца. Але рэкамендую ў кожным заданні даць паспрабаваць сябе ўсім дзецям.*

**Вядучая**: Цяпер мы маем колькі ключоў?

**Дзеці**: Шэсць!

**Вядучая**: Значыць, засталося знайсці апошні ключ. І Зіма так перапалохалася, што напусціла на нас усе свае чары. Мы нават самі сябе пазнаць не можам! Але мусім гэта зрабіць.

*Дзеці па чарзе падыходзяць да вядучай. Яна ставіць дзіцятка тварам да астатняй дружыны і прыкладае да яго падрыхтаваны аркуш з выразанай дзіркай і малюнкам. Дзіцятка не павінна ведаць, што гэта за малюнак. Яно мае права толькі задаваць сваёй дружыне розныя пытанні пра „сваю" знешнасць, дакладней, знешнасць таго казачнага героя, якога ўвасабляе, і з адказаў здагадацца, хто гэты герой. Напрыклад:*

**Алесь** (Магутны Зубр): Што ў мяне на галаве?

**Дружына:** Бант!

**Алесь:** Я дзяўчынка?

**Дружына:** Так!

**Алесь:** А якога колеру мае валасы?

**Дружына:** Сінія!

**Алесь**: Я Мальвіна?

**Дружына:** Так!

*Калі малюнкі для гэтай гульні не падрыхтавалі, вядучая прапануе адгадаць, якім казачным героем зрабіўся нехта з дружыннікаў, па падказках:*

**Вядучая:** На Алесю вялікі капялюш... На Алесю доўгі плашч... накідка з крыжом... У Алеся ёсць вусы і барада... У Алеся ёсць шпага... (Адказ — мушкецёр або Артаньян).

**Вядучая:** Ну, вось, мы разбурылі ўсе чары злой чараўніцы Зімы, і зноў у нас Вясна (Лета), і мы можам адамкнуць замову:

Ты, пчолка ярая,
Ты вылецъ з-за мора,
Ты вынесі ключыкі,
Ключыкі залатыя,
Адамкні лецечка,
Лета цёплае,
Замкні зіманьку,
Зіму сцюдзёную!

Вядучая імітуе адмыканне.

**Вядучая:** Вы цудоўна праявілі сябе сёння, як смелыя, дасціпныя, разумныя дзеці і сапраўдныя сябры Веранічкі. А Веранічка была добрым правадыром дружыны. Так?

**Дзеці:** Так!

**Вядучая:** Цяпер, каб Зіма больш да нас не сунулася, запалім на торціку святочныя свечкі. З днём нараджэння, Веранікa!

Смачна есці!

**Людміла Рублеўская**

# Польска-беларуская крыжаванка № 16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Koszmar / Kosz | | Skala | Takt | Jantar | |
| | Jad / Kasztan | | | | | | |
| Jak / Mecz / Meszka | | | | | | | |
| | | | | | | Ar | |
| Kapeć, trepak | | Ołtarz | | | | | |
| Kielich, czara | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку № 12:** пясок, лугі, комін, дар, нумар, шуба, барак, сяло, душа, сум, Амур, ногі, раб, кіно, рак.

Узнагароды — **запісныя кніжкі** — выйгралі: **Дарота Харкевіч** з Дубін, **Пятрусь Янкоўскі**, **Анэта Таранта** і **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага, **Дар'юш Бяляўскі** са Старога Беразова.

**Духмяныя фламастэры** атрымаюць: **Агнешка Федарук** з Вітава, **Лявон Ляўчук** з Орлі і **Моніка Сергяюк** з Локніцы.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі, або чакаць іх у сваёй школе.



Талон „Зоркі" № 16
20.04.1997



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Карове не скажаш „выбачайце!”

У найбольш адлеглай ад цэнтра Гайнаўкі Юдзянцы, дзе здавалася б ціха і спакойна, жыццё ідзе на ўвесь мах. Менавіта тут знаходзіцца шмат істотных для гайнаўлян і навакольных прадпрыемстваў. Калі б не праязджаючыя час ад часу машыны, можна было б падумаць, што мы не ў горадзе, але ў вёсцы ў жніўную пару, дзе толькі бабулькі, седзячы на прывулічных лаўках, перасыпаюць сваё жыццё.

Ідзем за машынай-цыстэрнай з надпісам „малако”, якая павярнула на пандворак Акруговага малочнатаварнага кааператыва ў Гайнаўцы. У кабінеце прэзаса як заўсёды ўтульна і сардэчна. За сталом сядзіць той жа самы чалавек, з якім сустракаліся мы шмат гадоў таму назад. У красавіку бягучага года Андрэй Прызовіч будзе святкаваць саракавы юбілей сваёй працы. Гэта нямала.

— Цяпер у вас тут неяк ціха, — гавару, вітаючыся. — Раней, памятаю, не было і хвіліны, каб нехта ў белым халаце не прайшоў калідорам. Крызіс? — пытаю.

Андрэй Прызовіч хітравата, але думна ўсміхаецца, схіляецца пад стол, нейкі час там нечага шукае.

— Ёсць! — і падае мне звычайную папку. — Паглядзіце самі.

Гартаю дакладную падрабязную інфармацыю пра дзейнасць ягонага кааператыва. Маё першае ўражанне аказваецца памылковым. Факты гавораць зусім пра іншае — размах вытворчасці і развіццё прадпрыемства. У гэтым, здавалася б хілячымся да заняпаду кааператыве, працуе на поўных штатах 245 чалавек, з чаго толькі ў самім транспарце 60 асоб. Гэта яны звозяць у Гайнаўку малако ад 4 500 гаспадароў з 69 пунктаў скупкі.

— Гэта... — хацеў я спытаць, але прэзас мяне папярэдзіў адказам

— Гэта значыць 39 млн. 182 тыс. літраў малака ў год. За адзін дзень зможам перарабіць на прадукты 107 тыс. літраў малочнай сыравіны. А бываюць і месяцы (асабліва летнія), калі даходзіць і да 150 тыс. літраў.

— Гэта многа ці мала?

— Мы, як прадпрыемства, падрыхтаваныя на значна большую вытворчасць. Карове не скажаш — „выбачайце, калі ласка”. Як на наша асяроддзе, то яго нямала. Працуем на тры змены, але вынік нашай працы можам заўсёды павялічыць. Зробленае аднак трэба прадаць і таму стараемся пашырыць рынак продажу нашых вырабаў. Усё ідзе правільнай каляінаю, — прадаўжаў прэзас А. Прызовіч. — Значна паменшылася колькасць пастаўшчыкоў малака, як сыравіны...

— Дык я нечага тут не разумею — паменшваецца колькасць пастаўшчыкоў, а вы намераны пашыраць вытворчасць, — спыняю вывады прэзаса.

На твары Андрэя Прызовіча з’яўляецца ўсмешка прафесіяналіста.

— Усё яно праўда, — гаворыць. — Колькасць пастаўшчыкоў малака паменшылася, але не паменшылася колькасць самой сыравіны. Наступае проста працэс спецыялізацыі. Па ўзору іншых краін узнікаюць звычайныя фермы. Памяншаецца колькасць жывёлаводаў, але разрастаюцца статкі.

Акруговы малочнатаварны кааператыў у Гайнаўцы перайшоў на сучасныя формы гаспадарання. Перамагла тэхніка. Купілі сучасную машыну для дастаўкі сыравіны. Самі забіраем малако ад гаспадароў, зараз жа на пандворку акрэсліваем яго якасць. Вынікам гэтага быў факт, што натуральнай смерцю памерлі малыя пункты скупкі малака.

— Добра! А што з гаспадарамі, якія імі карысталіся? — пытаю.

— Іх таксама не пакідаем. Даязджаем сваім транспартам і забіраем непасрэдна ад іх. І тут крыху заашчадзілі. Машыну і так трэба было гнаць — калі не да гаспадароў, то да пункту скупкі.

У гаспадарчым плане гайнаўскага малочнага завода ёсць намер ставіць на вялікія статкі кароў. Дробныя знікаюць самі па сабе.

— Тых вялікіх маем на нашай тэрыторыі дваццаць шэсць. Гэта ўжо вытворцы еўрапейскага ўзроўню. Маюць сучаснае абсталяванне з халадзільнікамі. Да іх даязджаем кожны другі дзень. Менавіта яны ёсць асновай нашай вытворчасці. У сувязі з тым, што гаспадаркі гэтыя павялічваюцца, плануем у бліжэйшы час дакупіць яшчэ дзве падобныя першай машыны.

Гайнаўскі кааператыў паставіў на разбудову. Толькі ў мінулым годзе выдалі на інвестыцыю і павышэнне якасці вытворчасці 22 млд. старых злотых. Абсталявалі еўрапейскага стандарту лінію для пастаяннай вытворчасці сыроў. У сувязі з гэтым пабудавалі ўласную іх даспявальню на 200 тон.

— І зноў ашчаднасць, — хваліцца прэзас. — Раней наймалі ў іншых, напрыклад у Элку, а зараз маем сваю. А сыры даспяваюць шэсць тыдняў.

Гонарам малочнатаварнага кааператыва ў Гайнаўцы з’яўляецца прадукцыя сыроў, а менавіта: падляшскага, эдамскага, марскога. Працуюць кругласутачна, даючы 7 тон гэтага прадукту аднаразова. А лінію абслугоўвае ўсяго толькі некалькі асоб.

Зараз, апрача асноўнай вытворчасці, такой як масла, смятана, тварог, спажывецкае малако ды ўспомненыя сыры, распачалі прадукцыю смакавых сыркоў з апенькамі, шынкай, зялёнай цыбуляй і зёлкамі, а таксама салодкія.

— Усё яно так, але тавар трэба прадаць. Ну а як з рынкам збыту вашых тавараў? — пытаю.

— На 25-тысячную Гайнаўку і яе ваколіцу хапае ўсяго толькі 10 працэнтаў нашай вытворчасці. Апошняя ідзе на так званы ўнутраны экспарт. Найбольш бяруць паўднёвыя ваяводствы, а больш за ўсё Шлёнск. Ад часу да часу высылаем за граніцу, асабліва сухое малако. У краіне застаецца яго толькі 20 працэнтаў ды і гэтае поўнасцю забірае Любліншчына. Апошнім часам падпісалі мы дамову на продаж сваіх прадуктаў з Катавіцкім, Кракаўскім, Чанстахоўскім, Шчэцінскім і Зялёнагурскім ваяводствамі.

Гэта сугляшаючае, што апошнім часам тэхніка і нас наблізіла да Еўропы. Машыны ўсё больш ды больш заступаюць чалавека. Але што будзе, калі падменяць яго поўнасцю? Ці не паўторыцца эпоха паравой машыны.

**Міхась Шаховіч**

# Вербніца

20 красавіка пачынаецца Вялікі тыдзень — апошні тыдзень Вялікага посту. У перадвелікодную нядзелю адзначаем Уезд Госпада Ісуса ў Іерусалім і на памятку гэтага здарэння падчас набажэнства пасвячаюцца пальмы — вярбовыя галінкі. У народзе свята называюць Пальмовай або Вербнай нядзеляй — Вербніцай.

У Евангеллі паведамляецца, што калі Ісус ішоў у Іерусалім, вучні прывялі Яму аслiцу і маладога асла. Паклалі на іх сваё адзенне і Ісус сеў на асла. Калі Ён пад’язджаў да Іерусаліма, мноства народу выйшла Яму насустрач. Перад Ім людзі рассцілалі сваё адзенне і пальмавыя галінкі з воклічам: „Асанна Сыну Давідаму! Благаслаўлёны Той, Хто ідзе ў імя Гасподняе! Асанна ў вышніх!” Калі Ісус увайшоў у Іерусалім, горад ускалыхнуўся, і ўсе пачалі пра Яго пытацца: „Хто Ён?” Тыя, хто Яго ўслаўляў, адказалі: „Гэта Ісус, Прарок з Назарэта Галілілейскага”.

Звычай свяціць пальмы прыйшоў да нас з Захаду ў сярэдневякоўі, а вецце пальмы замянілі вярбовыя, малінавыя або парэчкавыя галінкі, якія ў пачатку Вялікага посту зрэзвалі і ставілі ў збанкі з вадою, каб развіліся і расцвілі.



Асвячоныя вярбовыя галінкі людзі трымалі за святымі іконамі. З надыходам зімы або перад чарговым Вялікаднем іх спальвалі (свячоных прадметаў нельга выкідаць на сметнік). Даўней — пускалі на ваду ракі.

Сёння, асабліва ў гарадах, пальмы можна купіць на базарах, а робяць іх з засушаных кветак, часта штучных, з пафарбаваных сцяблінак траў. Такія пальмы трымаюць у вазонах, нават па некалькі гадоў, а калі пыл прыхавае іх харawство, вандруюць яны ў... сметнік.

Стагоддзямі асвячаным пальмам прыдаваліся магічныя ўласцівасці. Распушчаныя пупышкі лічыліся сімвалам пладавітасці, сілы, маладосці. Людзі сцябалі галінкамі адзін аднаго, прыгаворваючы: „Вэрба б’е, нэ заб’е, за тыждэнь Вэлікдэнь...” ды жадалі сабе поспехаў і багацця. Глыталі таксама пупышкі, якія мелі прадухіляць галаўны боль, хваробы дыхальных шляхоў і лёгкіх. Асвячоныя галінкі прымяняліся для замовы навальніцы, акурвалі імі жанчын у час родаў і хворую жывёлу. Верылі, што яны ахоўваюць ад маланкі, пажару і іншай небяспекі. У велікодны панядзеляк свяцілі імі палі. Калі вясною ўпершыню выганялі быдла на пашу, сцябалі яго пальмай, каб не хварэла ўлетку. Ва ўсіх гэтых звычаях гучыць рэха старажытных, яшчэ дахрысціянскіх забабонаў.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Паставіць свечку

[1 ☞ праціг]

гавораць па-свойму.

Распытваю пра дэмаграфію, колькі яшчэ асталося гаспадароў. Згаварыцца пра гэта не так і проста, бо трэба паясняць, каго гаспадаром лічыць, а каго не.

У цэлым салэцтве больш сарака хат: у Баб’яй Гары 22, у Пасеках 12, у Баравых 4 і ў Мядзвядзях, якія афіцыйна называюцца „Семянякоўшчызнай”, шэсць. „Сапраўдных” гаспадароў — няма. Калісь быў „млоды рольнік” у Пасеках, недзе з Польшчы прыехаў, набраў аблагоў, крэдытаў, машын, але ўсе прадаў. Паехаў у Бельгію, зарабіў крыху граша, купіў самаход і цяпер абвазным гандлем займаецца. Збожжа каб сабраць, людзі наймаюць прыватны „Бізон” з Семяноўкі, але палова зерня ў полі застаецца; не лепшыя і СКРаўскія. Калі не стане гэтых „Бізонаў”, перастануць людзі сеяць. Будзе ў салэцтве нейкіх дзесяць бульбакапалак, каля пятнаццаці трактароў. Хто не мае трактара, той наймае. Адзін гаспадар з Баб’яй Гары абрабляе зямлю канём — сядае вярхом і бaранyе.

Здзіўляе мяне гэткая агратэхніка, бо ж бароны трэба час ад часу падрываць, каб пырнік скінуць. Калісь, калі людзі працавалі з коньмі, не ездзілі на іх вярхом, а бывала толькі, што вельмі сакавіта з імі размаўлялі. А тутака — які прагрэс!

У чатырох вёсках пяць старых кавалераў, ёсць і сужонствы з дзецьмі. Трымаюцца пры бацьках-пенсіянерах, бо самім выжыць няма з чаго: з гаспадаркі даходу няма і працы нідзе няма навокал.

Згадваю пра пушчанскі рэзерват. Яшчэ сюды яго не давялі. Але ўжо ў Масеве былі накінуліся на аднаго сямідзесяцігадовага дзядулю, які сам выдзер караніshча на лучыну сабе, ды яшчэ на аднаго, што нарэзаў бярозавых хлюбаў на венік.

* * *

Едучых з Масева асцерагальны знак папярэджвае перад разгалінаваннем дaступных для праезду дарог. У Альхоўку — едзь, аднак дарога, што ў Гушчэвіну, закрыта знакам забароны ўсялякага руху. Ад Гушчэвіны такога знаку на ёй няма. Затое такавусенькі знак пастаўлены перад уездам у вёску, з агаворкай, што не датычыць ён мясцовага руху. Значыць, калі хто ў Гушчэвіне не прапісаны, нельга яму заехаць у вёску! І, для прыкладу, як нейкі Ваня з Варшавы ці Сеня з Лодзі выбіраецца да бацькоў у Гушчэвіну, павінен, як пры цары, — пехатою, з мяшочкам на плячах.

* * *

Здавалася б — адна бяда з гэтым рэзерватам. Але ж ад чаго кемлівасць, не толькі ў дарожных бюракратаў, але і ў нашых людзей, якія не толькі могуць баранаваць вярхом, але і знайсці спосаб на бюракратычныя хітрыкі. Удалося мне прачуць спосаб на рэзерват: паставіць свечку. Не скеміў я, бо свечка наогул напамінае памінкі, аднак раз’яснілі мне: у засуху паставіць у лесе свечку, запаліць, і выйсці з лесу.

* * *

Ад вякоў карміла тутэйшая зямля нашых продкаў, а дровы грэлі; дровы, не дрэвы. Дрэвы нашы продкі шанавалі, пакідалі нашчадкам сваім. Таму і пушча захавалася, адзіная такая на ўсю Еўропу. На пушчу затое накідаліся толькі валачаі здалёк; сёння накінуліся на яе бюракраты са сталіцы „дзяржаўныя”, як там хваляцца, дзяржавы. Насуперак волі тых, якія адвечна тут жылі ў сімбіёзе з лесам, можа не як у райскім агародзе, але ж неяк жылі. А цяпер пушча становіцца ім пеклам. Можа і лепей было б, каб яна была і зусім прапала.

**Аляксандр Вярбіцкі**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Мікалай Янчук — вялікі забыты

Пытанні нацыянальнага, рэлігійнага, культурнага памежжа ўжо многія гады прыцягваюць увагу даследчыкаў і знаходзяцца ў цэнтры зацікаўлення розных навуковых дысцыплін. У многіх польскіх вышэйшых навуковых установах створана інстытуты і лабараторыі, у якіх прадметам даследаванняў сталі пытанні міжкультурнай адукацыі. У краіне і за мяжой арганізуюцца шматлікія канферэнцыі, прысвечаныя шматкультурнасці і працэсам, якія вынікаюць з гэтай з'явы. Праблематыка памежжа ўвесь час інтрыгуе і прыцягвае даследчыкаў. З іх лабараторый штораз часцей выходзяць працы, прысвечаныя гэтым пытанням. Як жа часта гэтыя разважанні бываюць тэарэтычнымі і абстрактнымі. Прымяняецца ў іх мадэльнае паняцце „чалавек пагранічча", без спасылкі — на жаль — на жывыя, канкрэтныя прыклады. Многія такія асобы са свету культуры, літаратуры і мастацтва прапалі ў цемры забыцця. Сёння не знойдзем іх прозвішчаў у энцыклапедыях, лексіконах і слоўніках, хаця мы самі імкнемся працягваць іх ідэі і ананімны ўклад у многія галіны нашага жыцця.

Несумненна, адной з такіх асоб, якія характарызуюцца паглыбленай духовасцю і асаблівай уражлівасцю, шчыра абдораных самымі рознымі талентамі, з'яўляецца Мікалай Янчук (1859-1921) — этнограф, фальклярыст, антраполаг і літаратар вернуты з забыцця дзякуючы новай кніжцы Васіля Белаказовіча*, якая расказвае пра жыццё, дзейнасць і творчасць гэтага незвычайнага чалавека. М. Янчук нарадзіўся ў Карніцы на Падляшшы, жыў і працаваў у Маскве, рупіўся аб беларускія (быў заступікам нацыянальнай свядомасці беларусаў), украінскія і польскія справы, а яго працы сталі трывалым элементам культурнай спадчыны гэтых народаў.

Чарговыя раздзелы кніжкі Васіля Белаказовіча гэта накіраванае ў адрас чытача запрашэнне, каб пад прафесійным (але не нудным!) кіраўніцтвам аўтара здзейсніць падарожжа па слядах Мікалая Янчука ад роднай вёскі ў вялікі свет, ад падляшскай „малой айчыны" ў творчую прысутнасць у славянскіх літаратурах. Першы раздзел аўтар прысвяціў роднай зямлі Янчука, яго караням, дзяцінству і юнацтву, другі датычыць побыту Янчука ў Маскве, а таксама фарміраванню яго нацыянальнай самасвядомасці. Трэці прадстаўляе дзейнасць гэтай асобы ў галіне этнаграфіі і фальклярыстыкі з улікам падляшскай і польскай тэматыкі ў калекцыях і працах Янчука, а чацвёрты абмяркоўвае яго заслугі для славянскіх літаратур.

Тыя, што стануць знаёміцца з навейшай працай Васіля Белаказовіча, будуць мець многа прычын для задавальнення. Аўтар, як заўсёды, прапануе эрудзіраваную і сумленную кніжку, абапертую на багатых крыніцах, напісаную з красамоўствам і добрым веданнем тэмы, замацаваную ў шырокім культурным кантэксце. На старонках кніжкі сустракаем небывалую колькасць персанажаў, прозвішчаў і званняў. З'яўляюцца таксама лісты і дакументы, фрагменты біяграфіі і навуковых прац Мікалая Янчука, выцягнутыя ўпершыню аўтарам з бяздонных маскоўскіх і мінскіх архіваў дзы бібліятэк. Васіль Белаказовіч не толькі расказвае пра жыццё і дзейнасць Мікалая Янчука, але і праводзіць пранікліўую інтэрпрэтацыю культурных і гістарычна-літаратурных фактаў (напрыклад, прабуе адказаць на пытанне: чаму Янчук напісаў пасланне Янку Купалу на ўкраінскай падляшскай гаворцы? Не было гэта выпадковым!), абвяргае міфы, узнімае палеміку і дыскусію, выпраўляе памылкі і хібы, дапушчаныя як у інтэрпрэтацыі здабыткаў Янчука, так і ў тлумачэнні архіўных рукапісаў. Цікаўнасці кніжцы прыдае яе кампаратыўны падыход, а гэта яшчэ раз сведчыць аб вялікай эрудыцыі аўтара.


Bazyli Białokozowicz
Mikołaj Janczuk
1859-1921
Wyższa Szkoła Pedagogiczna · Olsztyn 1996

Манаграфія жыцця і творчасці Мікалая Янчука гэта не толькі апісанне лёсу гэтай выдатнай асобы. Гэта значна больш чым гісторыя аднаго жыцця. Гэта таксама кніга пра нас саміх, пра нашы слабасці і заганы, пра наша духовае ўбоства. Гэтая кніжка — як ніводная іншая — дазваляе нам усвядоміць праўду, якой так часта не прыкмячаем, што свет і з'явы ды працэсы ў ім з'яўляюцца большай еднасцю, чым гэта нам уяўляецца, а ўсялякія межы і падзелы не выпісоўваюцца так востра і ярка, як хацелася б нам заўважаць іх. У многіх сучасных працах, прысвечаных шматкультурнасці, аўтары ствараюць, і ставяць чытачу ў прыклад, тэарэтычны, ідэальны вобраз „чалавека пагранічча" адкрытага на іншых, пазбаўленага стэрэатыпаў, ксенафобіі і нацыянальных прадузятасцей. Мікалай Янчук не разважаў аб талерантнасці і адкрытасці, ён папросту такім **быў** і больш чым словам уздзейнічаў сваёй асобай. Ягоная ўнутраная сіла выцякала з традыцыі, якую засвоіў у родным Падляшшы, а таксама з сувязей з роднай зямлёй, якія ніколі не спыніліся. З перспектывы канца XX стагоддзя з зайздрасцю спаглядаем на Мікалая Янчука і падобных яму людзей. Былі яны больш разумныя і больш багатыя за нас, не ведалі прынцыпу „divide et impera".

Асоба і дзейнасць Янчука набываюць сучаснае вымярэнне ў кантэксце ідэі аб'яднанай Еўропы, у якую кожная нацыя павінна ўнесці свае найлепшыя якасці і культурную спадчыну. Разнастайнасць у адзінстве — гэты лозунг увесь час стаіць перад намі, а так мудра разумеў яго і засведчваў сваім жыццём і творчасцю Мікалай Янчук. Гэта з'яўляецца ягоным духовым тастаментам і запаветам нам.

Кніжка Васіля Белаказовіча, якая з'яўляецца навуковай працай, была напісана ад сэрца і са страсцю. Гэтыя выразныя эмацыянальныя адносіны аўтара да прэзентаванай асобы і ходу яе жыцця дапамагаюць чытачу ў асэнсаванні тэмы, прыдаюць кніжцы большай верагоднасці і прываблівасці. Трэба толькі радавацца, што стыль навуковых прац польскіх вучоных штораз часцей нагадвае працы заходніх даследчыкаў, якія — наперакор іх навуковым якасцям — чытаюцца за адзін прысест. Аўтар не сказаў тут яшчэ апошняга слова і не закрывае даследаванняў над гэтай незвычайнай асобай. Манаграфія адкрывае новыя даследчыцкія перспектывы, а В. Белаказовіч заяўляе, што даследаванні будзе працягваць (м.ін. вывучаецца супрацоўніцтва Мікалая Янчука з украінскімі прадстаўнікамі навукі і культуры: з М. Лысенкам, М. Сумцовым, А. Крымскім, У. Гнацюком, Б. Грынчанкам, У. Навуменкам, І. Олэсныцкім, Л. Жытэцкім.

На канец варта адзначыць таксама мілы асабісты акцэнт. На кніжцы пра Мікалая Янчука Васіль Белаказовіч змясціў прысвячэнне: „Маёй жонцы Тамары, нястомнай і вернай падляшучцы". Калі прасочым за роляй жанчын у жыцці пісьменнікаў і вучоных, зразумеем важнасць гэтага прысвячэння. Мабыць, без прысутнасці Тамары ў жыцці аўтара не было б гэтай кніжкі?

**Тэрэса Занеўска**

* Bazyli Białokozowicz, *Mikołaj Janczuk (1859—1921). Podlaskie skrzyżowania tradycji słowiańskich*, Wyższa Szkoła Pedagogiczna, Olsztyn 1996, ss. 250.

# Дзесяць гадоў у Рыбалах

[1 ☞ *працяг*]

Побач падзяк за гасціну, запісаў для памяці, між прозвішчамі наведвальнікаў — пісаная рукою настаяцеля навейшая гісторыя царквы, прыхода, вёскі і ваколіцы. Пералічаны тут культурныя навіны, канцэрты „Хлопцаў-рыбалоўцаў", радасныя дні і трагічныя выпадкі. Адзначаныя ў ёй усе святы, рамонты царквы, капліц, прыхадскога дома, добраўпарадкаванні прыцаркоўнага пляца. Можна тут прачытаць, колькі было прысутных на паасобнай багаслужбе і, нават, якая ў той дзень была тэмпература ў царкве.

— Кожная, нават самая дробная занатоўка можа несці істотную інфармацыю, — кажа а. Рыгор. — Напрыклад, у першае маё Раздво тут, на ўсеначнай прысутнічала 430 асоб, а сёлета — ужо толькі 290. У гэтых лічбах сумная праўда аб тым, як выміраюць, пусцеюць нашы вёскі. Я цяпер хрышчу якіх пяць дзяцей у год, і то толькі таму, што часчасом падкідаюць іх беластоцкія ўжо бацькі. А пакойнікаў выводжу пяць разоў больш.

Бацюшка паказвае сшыткі са спісамі жыхароў вёсак Рыбалаўскага прыхода. Чацвёртая частка прозвішчаў закрэсленая яркім чырвоным колерам. Іх ужо тут няма.

Памятныя кнігі Рыбалаўскага прыхода дапоўнены здымкамі, выразкамі з прэсы, якія датычаць мясцовых падзей. У гутарцы з айцом Рыгорам складваецца ўражанне, што чытае ён усё.

— Мае каардынаты вызначаюць праваслаўе, беларускасць і рэгіяналізм. Я праглядаю ўсё, што пра гэтыя тры сферы выйшла з друку. Чытаць гэта, праўда, не хапае часу, але стараюся перагледзець усё.

Бацюшка не толькі „праглядае" сам, але таксама заахвочвае рабіць гэта сваіх прыхаджан. Распаўсюджвае ён „Przegląd Prawosławny", „Ніву", „Czasopis", іншыя царкоўныя і беларускія выданні.

— У нас ёсць людзі, — расказвае, якія „Przeglądu" не возьмуць у рукі, бо, маўляў, які ён праваслаўны, калі на польскай мове? Іншыя зноў не хочуць чытаць „Нівы", бо кажуць, што ім пабеларуску цяжка або, што яны не беларусы. Тым не менш, па 30-40 экзэмпляраў гэтых часопісаў у мяне разыходзіцца.

Рыбалаўскі прыход нетыповы, мабыць выключны ў маштабе ўсяе Польшчы. У чатырох тутэйшых вёсках — чатыры царквы.


*Свячэнне пасхі ў Войшках у 1993 годзе.*

— І яшчэ дзве капліцы. А да таго два жылыя дамы і некалькі будынкаў гаспадарчага прызначэння. Нягледзячы на тое, што нашы прыхаджане небагатыя, усё ўдаецца нам утрымаць у добрым стане. Дзе трэба, парабілі мы рамонты, памалявалі, аднавілі будынкі, перакрылі іх. У прыхадскім храме пазалацілі іканастас. Тое, што ўдаецца падтрымліваць заангажаванасць людзей у справы прыхода, дбайлівасць пра наша супольнае дабро, лічу, бадай, найважнейшым. І яшчэ я рады, што ў час майго прабывання ў Рыбалах, пакінуў я тут выразны след у пісьменнасці.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота з архіва а. Рыгора Сасны*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# У пошуках шчасця

— Што ты надумала, Марыся?! Чаму не хочаш ісці далей вучыцца? Такія добрыя ацэнкі на матуры... Думаеш, што Мірэк заўсёды будзе такі добры, як цяпер, га? Не ідзі ты яшчэ замуж...

— Мама, ён для мяне найлепшы з усіх хлопцаў, якіх знаю. Ён не ўмее хлусіць, і крыўды нікому зрабіць не можа. Я ўпэўнена, што добра мне з ім будзе, мама. А той універсітэт, думаеш, такое шчасце? Будзем рабіць на гаспадарцы. Пабудуемся, будзем мець парку дзяцей...

— Ну, калі так ужо хочаш за яго ісці, — рашыў бацька, — то выправім табе вяселле, і пасаг дамо. Толькі памятай: не прыходзь да нас, калі кепска табе будзе. Прыедзеш з мужам — угосцім, а калі наракаць захочаш — не паказвайся нам на вочы.

Мірэк быў старэйшы ад Марысі на дзесяць гадоў. Кляўся будучым цесцям, што іхняй дачцэ будзе з ім добра: будзе шанаваць яе і ў крыўду не дасць. Сам ён паспеў вышумецца, і будзе памагаць жонцы ва ўсім, дому пільнавацца.

Праз год нарадзіўся ім сын, праз тры — дачка. Мірэк добра адносіўся да сям'і. Здавалася, што няма лепшага мужа ва ўсёй ваколіцы. Але свекры не надта Марысю любілі, папракалі, што прыносіць дзіцё за дзіцём, мала з яе толку ў гаспадарцы. Спачувалі сыну, што ўзяў такую нерабацяшчую.

Марыся на нішто не звяртала ўвагі. Муж і дзеці былі для яе ўсім на свеце. Думала, што муж у пачуццях такі ж стойкі, як і яна.

Якраз паставілі падмурак пад новую хату, калі Марыся зноў зацяжарыла. Муж ударыў яе ў твар: „Усё будзеш з жыватом хадзіць, у хаце толькі брудныя пялюшкі?! Дзяцей толькі калышаш — такая з цябе карысць!"

— Ты чаго так расхадзіўся? Ці гэта толькі мая віна, што я зноў з жыватом? Ты і сам да гэтага прычыніўся!

— А з цябе што за баба? Толькі дакранешся, а адразу трыбух расце!!!

Дом рос усё вышэй, але Марыся ўжо не цешылася. Муж часта выпіваў, ездзіў з кавалерамі на танцы. Свекры ўсё дапякалі, што нявестка ходзіць як цельная карова. На ўнукаў не хацелі нават глядзець. Марыся ледзь спраўлялася з абавязкамі, якія зваліліся на яе галаву. Пасля трэціх родаў, у бальніцы, пачула ад мужа:

— У новай хаце мне трэба новая жонка.

— Што табе прыйшло ў галаву? — злякалася Марыся. — Ты мяне з дзецьмі хочаш выкінуць з дому, ці што?! Куды нам дзецца? Мае бацькі ж нас не прымуць...

— Возьмуць вас, возьмуць. Калі цябе выпішуць з бальніцы, я ўкіну ў воз твае рэчы і цябе з дзецьмі завязу на бацькаў панадворак і там пакіну.

Марыся расплакалася. Дастала гарачкі, не магла падняцца з пасцелі. Медсёстры, даведаўшыся ў чым справа, пазванілі працаўніку сацыяльнай апекі ў гмінную ўправу, пад якой ёсць вёска К.

У дом Мірка ўвайшлі кіраўнік сацыяльнай апекі, міліцыянер і гмінны сакратар.

— Нас паведамілі з бальніцы, што не хочаце забраць дадому жонку з нованароджаным дзіцём, думаеце яе вярнуць бацькам разам з усімі вашымі дзяцьмі. Будзеце плаціць аліменты на трое дзяцей і жонку, пакуль знойдзе сабе працу, — паведаміў кіраўнік сацыяльнай апекі.

Міркавы бацькі вырачылі вочы. Што ж такое іхні сын выдумаў?! Канфлікты, вядома, здараюцца ва ўсіх сем'ях, але ж людзі неяк ладзяцца! Міліцыянер і сакратар таксама спрабавалі прамовіць Мірку да розуму.

— Я хачу памаладзець, і мне трэба маладая жонка, — адказаў ён абыякава. — Вось там, паглядзіце ў акно, стаіць мая каханая на вуліцы.

За акном нікога не было.

Мірэк выбег з хаты з крыкам:

— Мая любая, ты вернеш маю маладосць!

Стала ясна, што страціў розум.

Ледзь удалося бацькам прывесці сына дадому і адправіць яго ў бальніцу.

Марыся з дзецьмі вярнулася да сваіх бацькоў. Праз паўгода атрымала працу ў бюро. З мужам развялася. Мірэк, сказалі псіхіятры, ёсць невылечна хворы, і яго стан пагоршваецца. З бальніцы ніколі не выйдзе.

Міркавы бацькі плачуць перад людзьмі, пытаюцца, за што іх спаткала такое гора — ні сына ў іх няма, ні ўнукаў, Божа мой, такое гора. Хто часам ім прыгадае, як трактавалі нявестку, а сыну слова не сказалі, калі кідаў сям'ю і ездзіў па забавах.

Аўрора

# Прыхарошванне яек — птушыная спецыяльнасць

Яйка ў нашай традыцыі лічыцца сімвалам жыцця. Перад Вялікаднем у нашых беларускіх хатах красілі яйкі, каб пасля паставіць іх на святочны стол. Мая мама красіла яйкі на чырвоны колер у цыбульніку. Наогул мы добра азнаёмлены з курынымі яйкамі, якія з'яўляюцца адным з асноўных кампанентаў нашай ежы; менш з качынымі ці гусінымі, а ўжо амаль зусім незнаёмы з яйкамі палявых або лясных птушак. А трэба ведаць, што кожны год ад канца лютага да паловы лета ва ўсяляkіх гнёздах — малых і вялікіх, сплеценых на зямлі, над вадою, на высокіх дрэвах, у дуплах, норах ці пад стрэхамі — паяўляюцца яйкі розных колераў, кшталтаў і велічыні. Іх афарбоўцы — рознакаляровым плямкам, рыскам і кропкам — не дакажа аніякі народны мастак. Колер птушыных яек з'яўляецца творам уяўлення прыроды і адыгрывае ў жыцці птушак строга акрэсленую ролю. Яйкі гнездзячыхся ў адкрытай прасторы чаек, бекасаў ці сяўцоў сваёю афарбоўкаю так зліваюцца з наваколлем, што нават стоячы побач гнязда, нялёгка іх пабачыць — гэта адзіны спосаб іх абароны перад драпежнікамі. Птушкі, якія жывуць у дуплах, норах ці другіх углыбленнях — дзятлы, совы, зімародкі — зносяць белыя яйкі; ім ахоўная афарбоўка непатрэбная. Белыя яйкі маюць таксама вялікія і драпежныя птушкі — буслы, бакланы, лебедзі. Яйкі некаторых птушак — шпакоў, мухаловак, плішак — сінія. Сярод жывучых у нас птушак найбольшыя яйкі зносяць лебедзі, гусі, жураўлі і арлы, а ў свеце найбольшыя яйкі зносіў страус з Мадагаскара, які вымер 700 гадоў таму: даходзіла яно да 12 кг вагі і 40 см даўжыні; сам гэты страус важыў каля паўтоны. Найбольшае цяпер яйка афрыканскага страуса мае 18 см даўжыні, а найменшае — калібры — 7 міліметраў.

Андрэй Гаўрылюк

# Адгалоскі

**Спадар Яўген Чыквін!**

Калі я прачытаў у „Ніве" (н-р 7) вашы выказванні для газеты „Kurier Podlaski", сапраўды падумаў, што вы, спадар Чыквін, ідзеце супраць беларусаў. Там было так напісана. Цяпер, калі я атрымаў ваш ліст, за які я вам шчыра дзякую, і прачытаў вашы адгалоскі ў „Ніве" (н-р 13 ад 30 сакавіка г.г.), зразумеў я, што вы, спадар, ні ў чым не вінаваты, а гэта ўсё стараюцца зрабіць польскамоўныя газеты, між іншым „Kurier Podlaski", якія стараюцца пасварыць нас паміж сабою, так як калісь казалі салідарнікі: „Im gorzej, tym lepiej".

Цяпер усё гэта я добра паняў, бо я сам не карыстаюся літаратурнай мовай, а гавару на сваёй гаворцы, якая больш падыходзіць да ўкраінскай ці хахлацкай, але я сам з'яўляюся беларусам і хацеў бы, каб усе беларускія арганізацыі аб'ядналіся і былі згодны, так як калісь казала цётка Мальвіна, „што ў еднасці сіла".

На мой погляд гэтае разбіццё ўводзіць нам „Kurier Podlaski", а журналіст спадар Нікітаровіч, які перакруціў вашы выказванні, павінен вас публічна перапрасіць, а можа і гэтага замала.

Яшчэ раз вам, спадар Яўген Чыквін, шчыра дзякую за ваш труд і ад сябе вас шчыра перапрашаю.

З пашанай

Мікалай Лук'янюк

# Папраўка

У ходзе апрацоўкі артыкула Міхала Мінцэвіча „Прывітанне вясны ў Орлі" („Ніва" № 14 ад 6 красавіка 1997 г.) рэдакцыяй была дапушчана памылка. Аўтарам усяго выказвання быў настаўнік Аляксей Пётр Фурманоўскі. Словы, якія быццам бы сказала настаўніца Бэата Гарадэцкая, таксама належаць яму. На адпачынку з дзецьмі-інвалідамі ў Бельску не была згаданая настаўніца, як мы напісалі, а толькі спадар П. А. Фурманоўскі. Героям артыкула і аўтара сардэчна перапрашаем.

Рэдакцыя

# Адпачывайце, бабо!

У такім узросце адпачываць ужо толькі пара. Глядзець на ўнукаў, цешыцца пагодай і грашыма з рэнты. Бо на здароўе не наракае баба Зулька, хоць дажыла 79 гадоў. Толькі вось давялося ехаць, хай яе ліха, са сляпою кішкаю ў шпіталь. Доктар крыху баяўся, што не зажыве хутка, але баба Зулька худзенькая, лёгкая, тлушчу на ёй няшмат, то і хутка паднялася са шпітальнай пасцелі.

Дахаты паехала адна. Праўда, заглядала была да яе ў палату беластоцкая дачка Марыся, але ў дзень выпіскі ніхто не прыйшоў, і бабуля памаленьку патэпала да аўтобуса, па дарозе распытаўшы, які ідзе на аўтавакзал, і паехала дахаты. У дарозе крыху трасло, балела ў баку, але веснавое сонейка свяціла лагодна праз шыбу на бабіну галаву ў квяцістай хустцы, і яна задрамала, не заўважыла, як аўтобус падкаціў амаль пад яе мураванку.

У гэтай мураванцы, што будавалі яе з сынам і нябожчыкам Зюткам, на дзве сем'і, бо для сына і старых, займае баба Зулька цяпер адзін вялікі пакой. Калісьці старыя жылі за сцяноўкай, якая штодзень грэлася ім ад кухні, і зімой было там вельмі цёпла, а летам то хоць спячыся. Цяпер бабе выдзелілі аддзельны пакой, паставілі электрычную пліткy, зляпілі кафлёвую печ: вары, баба, сабе, што хочаш, за рэнту купляй што хочаш, дровы сабе загатаўляй, плаці, колькі трэба, і за тое, што табе наколюць. Грошы маеш свае. Адпачывай, за жыццё нарабілася.

— Ад тае ляноты здурэць можна, — уздыхае баба Зулька, зусім не лянівая. — Кавалачак агарода маю, але колькі тае з ім работы! Хочацца зачапіць за што-лень рукі. Выйшла была з граблямі, думаю, паварочаю сынава сена, правяртуся, пагрэю на сонцы плечы. А сынавая бяжыць: „Вы, кідайце граблі, ідзіце дахаты! Не рабеце! Хто вас просіць!? Нічога вашага не хочам, і не чакайце ад нас помачы. Маеце рэнту, то жывеце, як вам падабаецца, і нам таксама дайце!"

Добра, што Зульчын Пеця ажаніўся, дзеўку знайшоў на гаспадарку. І працуе Аня, і дзяцей нарадзіла. Чыстая, гжэчная, у царкву ходзіць. У хаце, як у шклянцы. Суседзі таксама хваляць. І Зулька не наракае — дбае нявестка аб Пецю, аб дзяцей. І дзеткі харошыя, добра вучацца. „Дзень добры" бабе скажуць. Толькі што да бабы бацькі іх не пускаюць, а старой хочацца прытуліць малое, даць які гасцінец...

— Каб малыя не мяшалі мне, кажуць. І каб я з імі па-просту не гаварыла, каб мовы ім не памяшаліся. А я ж і па-польску ўмею, калі трэба. Няўжо баяцца, што я „змарную" ўласных унукаў, і ў школе з іх смяяцца будуць?! У вясковай школе „простая" мова такая ўжо смешная стала?..

І сядзіць баба Зулька ў сваёй хаце. Халодныя тынкаваныя сцены абвешала макаткамі, маляванымі і тканымі дыванамі, падлогі пазасцілала палавікамі, цёплымі, каляровымі, што сама выткала са шматкоў адзення, яшчэ калі больш дужая была. Каб толькі ў хаце цяплей, больш утульна было. І праўда, чысценька ў яе, прыемна. Спакойна. І тэлевізар каляровы купіў ёй ольштынскі сын. Не выходзячы з хаты бачыш увесь свет: рэвалюцыі, войны, моры, землятрусы паказваюць — вось людзі бяду маюць! Канец свету, здаецца, блізкі ўжо стаў. З голаду мруць людзі, ад куляў!

— Абы ў нас мір быў. А жыць у нас якасьці можна. Во да чаго людзі ў вёсцы дажыліся...

Міра Лукша



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Позірк у мінулае

**21 красавіка**

1109 г. — памёр Ансельм Кентэрберыйскі, тэолаг, асновапаложнік схаластыкі. Народжаны ў 1033 г. у Аосце, у 1056 г. падаўся ў Нармандыю, дзе стаў манахам. Пасля захопу Англіі нарманамі ў 1066 г., у 1070 г. было заснавана біскупства ў Кентэрберы, якое ў 1093 г. ўзначаліў Ансельм. З гэтай пары ўспыхнула жорсткая барацьба Ансельма, палымянага прыхільніка тэакратычных поглядаў папы Грыгорыя VII, з англійскімі каралямі за інвестытуру, г.зн. за права назначаць абатаў і епіскапаў. Двойчы Ансельм выдвараўся з Англіі чарговымі каралямі. За той час напісаў ён свае асноўныя працы, у якіх намагаўся падпарадкаваць філасофію хрысціянскаму багаслоўю, розум — веры („веру, каб разумець"). Хаця Ансельм быў прадстаўлены для кананізацыі, кананізаваны ніколі не быў, аднак доўгі час лічыўся адным з айцоў Касцёла.

**22 красавіка**

1821 г. — павешаны канстанцінопальскі патрыярх Грыгорый V. Народжаны ў 1746 г. Грыгорый Ангелапулас тройчы станавіўся канстанцінопальскім патрыярхам: у 1779—98; гг., 1806—08 гг. і 1818—21 гг. У той час патрыярхат быў прадметам палітычных гульняў турэцкага двара. Займаючы свой пост, Грыгорый праславіўся ахвярнасцю ў працы над духовым адраджэннем сваіх суродзічаў — грэкаў. У 1821 г. грэкі ўзнялі паўстанне супраць турэцкага прыгнёту з мэтай адраджэння сваёй дзяржавы. Грыгорый, якога сядзіба знаходзілася ў сталіцы султанавай імперыі, асудзіў паўстанне, аднак нягледзячы на гэта ў Велікодную нядзелю 1821 г. туркі павесілі яго на галоўным уваходзе ў патрыяршы сабор.

**23 красавіка**

1420 г. — нар. Георгій Падабрадскі, апошні нацыянальны чэшскі кароль. У 1444 г. стаў ён лідэрам галоўнай гусіцкай групоўкі, памяркоўных утраквістаў (ад лацінскага *sub utraque specie* — у абедзвюх формах, г.зн. хлеба і віна), якія пайшлі на кампраміс з папствам і ў 1434 г. пабілі радыкальных табарытаў, якія апрача карэнных касцельных рэформаў дамагаліся яшчэ адмены паншчыны і прыгону. Утраквісты (чашнікі) дамагаліся толькі некаторых зменаў у Касцёле, і Георгій прадстаўляў галоўную апору стабілізацыі ў Чэхіі. У 1448 г. ён заняў Прагу і стаў адміністратарам а пасля рэгентам Чэхіі. Пасля смерці малалетняга караля Уладзіслава V, Георгія выбіраюць каралём. Аднак ягонае прывязванне да гусіцкіх ідэй вызвала папскую экскамуніку, а за ёю збройную інвазію венгерскага караля Мацея Корвіна, які ў 1468 г. заняў Маравію, пасля чаго папскія прыхільнікі абвясцілі Мацея чэшскім каралём. Георгій памёр 22 сакавіка 1471 г., назначаючы сваім наследнікам на троне Уладзіслава Ягелона; род Ягелонаў панаваў у Чэхіі да 1526 г., а пасля краіна папала пад уладанне Габсбургаў. Георгі Падабрадскі, чыё панаванне было надзвычай мірнае, адным з першых выступіў з прапановай склікання асамблеі князёў дзеля вырашання еўрапейскіх праблемаў. **(Ш)**

# Загадкавая камета

Камета Гэйла-Бопа — самая яркая камета ў нашым стагоддзі. У Польшчы будзе можна аглядаць яе да канца мая, але найлепшыя ўмовы для назірання былі да 15 красавіка.

Бачная цяпер на паўночна-заходнім баку Сонца камета праўдападобна вернецца да нас праз тры тысячы гадоў. Яна ўвесь час ярка свеціцца і перавышае нават яркасць зоркі Сірыус.

У рассветленым горадзе цяжэй сачыць за каметай. Аднак пры дапамозе бінокля можна ўбачыць даўжэйшы хвост і нейкую структуру. Навукоўцы ўстанавілі, што складаецца яна з вады, метанолу, вокісу серы і натрыю. Іншыя вучоныя мяркуюць, што складаецца яна з рэчываў, якія паходзяць з перыяду фарміравання Сонечнай сістэмы, якое адбывалася 4,6 млрд. гадоў таму, а ўсе хімічныя элементы і злучэнні выступаюць таксама на Зямлі.

Так яркай каметы даўно не было. Мінулагодняя камета Гіяку-Таке хаця мела даўжэйшы хвост, але так моцна не ззяла. Як відаць, сёлетняя камета вылучаецца сваёй магутнасцю, а папярочнік ядра дасягае 30—40 км. Вучоным не ўдалося ўстанавіць прычын, ані характару высылаемых таемных струменняў матэрыі, рухаючайся з хуткасцю 160 тыс. км/гадз. каметы.

Набліжаецца канец XX стагоддзя і, мабыць, гэта нейкі знак нам. Рэдка здараецца, каб дзве яркія каметы паявіліся на небе ў так кароткім перыядзе часу. Можна разважаць, што гэта нам прадвяшчае...

**Апрацаваў**
**Міхал Мінцэвіч**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне прыгожы, старадаўні палац, такі, якія бываюць у Англіі. Ён не такі вялікі, сярэдняй велічыні, але белы, усюды мармур.

Навокал няма ніякіх будынкаў, адно прырода. Раптам, адкуль ні вазьміся, на наш палац, а значыць і на нас, напала нейкае войска. Мы сядзімо ў палацы. Тое войска страляе ў нас. Мы хаваемся па кутках, за сценамі, бо ведаем, што гэтыя старыя муры вельмі тоўстыя і куляў не прапусцяць.

Але мушу падкрэсліць, што ўсе гэтыя падзеі я аглядаю, быццам у нейкім фільме, страху вялікага няма.

Пасля сніцца мне, быццам я ў хаце суседкі. Бачу, што яна насмажыла цэлую міску мяса. Мяска белае, гэта быццам палавінкі свіной паляндвіцы, прызначанай для адбіўных катлет. Ну, такое прыгожае мяса, кажу табе.

І раптам бачу: гаспадыня ставіць тое мяса на стары, белы крэдэнс і сама ўскаквае на яго. А там ужо сядзіць другая наша суседка.

Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Марына**

Марына! Першы сон сведчыць аб тым, што нейкая знатная, высокапастаўленая асоба абароніць цябе перад нейкімі нападзеннямі.

Што датычыцца другога сну, дык смешны ён, але кепскага нічога не прадбачвае. Наадварот, варанае ці смажанае мяса абазначае поспех у справах. Іншая справа, калі б мяса было сырое. А тваё ж да таго ўсяго яшчэ і выглядала вельмі прыгожа.

Так што, лічы, прычын, каб непакоіцца, няма.

**Астрон**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. від папугая, 4. напр. Аляксандр Лукашэнка, 6. лоўкасць, 7. нахільная паверхня чаго-небудзь, 9. рака ў Пакістане, 11. паўднёвае хвойнае дрэва, 12. авіяканструктар АНаў, 13. бронзавы медаліст Рымскай алімпіяды ў бегу на 800 метраў, 15. напрамак у космасе, куды ляціць наша Сонца, 17. парода для керамікі або будаўляных работ, 18. былая нямецкая калонія ва Усходняй Афрыцы, 19. злучэнне жалеза з вугляродам.

**Вертыкальна:** 1. стрэльбішча, 2. паслядоўнік, прыхільнік, 3. поле дзейнасці, 4. напр. Сейм, 5. вывучае структуру і рух верхняй мантыі Зямлі, 6. задняя частка тулава, 8. гонар, пашана, 9. зварот у суд, 10. падарунак, 14. уяўная лінія, якая дзеліць Зямлю на паўночнае і паўднёвае паўшар'і, 16. трыганаметрычная функцыя, 17. нездаровае, гнілое. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 9:**

**Гарызантальна:** табун, замаразак, ханат, адвар, БАМ, статыка, Акуліна, кут, Роўна, манна, адгалосак, Расія.

**Вертыкальна:** абарона, тамат, назва, занатоўка, Кавалёнак, хутар, ронда, бак, мат, ухіліст, ангар, місія.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# *Парнасік*

## Ад кілішачка

Пачаў піць ад кілішачка,
Знайшоў сябру Мішачку.
Пілі, разважалі,
Усіх шкадавалі.
Выпіць трошкі — нядрэнна.
Дае гумар, апетыт, і *няўрэдна.*
Гэта амаль лячэнне
І паводзін у жыцці вучэнне.
Я пасля кілішка — грамацей!
Не так, як мой бацька Мацей,
Які ўсё жыццё на гаспадарцы
гарбаваўся
І так у мазалях разжываўся.
Ён гарэлкі амаль ніколі не піў
І маркотна так жыў —
Без ніякай перспектывы,
Хаця не быў гультаём лянівым.
Я буду па-другому жыць,
Не буду на мазалі поту ліць.
І так ад кілішка да чаркі,
Пачаў ён хадзіць да Варкі,
Якая гарэлку прадавала
І найгоршы зброд шанавала.
Наш герой ад кілішка перайшоў
да шклянкі
І для жаніцьбы не можа знайсці сабе
Манькі.
Усе дзяўчаты яго бокам мінаюць
І многія людзі яму спачуваюць,
Бо з парадачнага чалавека стаў п'яніцай
І, каб „палечыцца", шукае гарэлкі
з раніцы.
І здавалася — гарэлка не пашкодзіць,
Але часта да драмы і бяды даводзіць.

**Мікалай Панфілюк**

## Дзядзька ў выцвярэзніку

Паехаў дзядзька ў горад,
Зайшоў на таўкучку,
Купіў пляшку спірту
І пахмяліўся крышку.
А калі ўсё выпіў,
Так мазгі змуціла,
Што не мог прыпомніць,
Дзе жыве яго міла.
Стаў дзядзька пятляці,
І людзей пытаці,
Думаў, трэба будзе
Дапамогу зваці.
Каму ж пазваніці,
Да каго падацца,
Каб па Беластоку
П'янаму не шляцца?
Не чакаў ён доўга
На нейкую дапамогу,
Бо зараз паліцыянты
Перакрылі яму дарогу.
Дзядзька стаў прасіці,
На калені ставаці:
„Трэба мне дадому
Кароў даглядаці".
Не памаглі просьбы,
Хацеў хабар даці,
Можа тады стануць
Лепей шанаваці.
Дзядзьку тут звязалі,
У самаход запхалі
І ў выцвярэзніку
Мяккі начлег далі.
Вярнуўся дахаты,
Стаў жонцы казаці,
Як яму было выгадна
У выцвярэзніку спаці.
Як прыйшоў рахунак
За начлег заплаціці,
Дзядзька паехаў у горад
Прадаць нагавіцы.

**Мікалай Лук'янюк**

*Ніва*

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Ніўка




*Малюнак В. ФЕДАРКІ*

## Пародыі

**Велямудрасць?**

*Вечар вандроўны на дрэвах павіс,*
*Морак сабачыцца ў чэраве вуліц.*
*На вешалцы дзён у мой жыццяпіс*
*Сумненне ўпрадзе*
*мо мысль-велямудрасць?..*
*Каменне камянела.*

***Ян Чыквін***

Каменне камянела.
І лісце адлісцела.
Трава ўжо адтравела.
На дрэвах вечарэла.

Вось, як сабака, морак
Ідзе ў чэраве вуліц,
І здрадзіла ўчора
Мне мыслі велямудрасць.

А ранкам зноў святлела.
Ад думак падумчэла.
Мой розум разумнее.
Каменне ж... камянее.

**Сяргей Чыгрын**

## Не спі ў берэт

На беларускім раздарожжы
Інтэлігент-змагар стаіць
І моліцца: — Святы мой Божа!
Падай мне Арыядны ніць!
Дапамажы мне з лабірынтаў
Рэформных бедаў і нягод
Мой талерантны, працавіты
Як-небудзь вывесці народ!..
І знекуль голас зычны ўзняўся
(Ці з неба, ці з якой з планет?):
— Змагар! На Бога спадзявайся,
Але ж і сам не спі ў берэт!

**Васіль Маеўскі**

## Скажам праўду

— Як табе пайшло на экзамене?

— Выдатна. Прафесар быў ветлівы, толькі, здаецца, вельмі набожны, бо пасля кожнага майго адказу ўскідаў рукі ў неба і ўздыхаў: „О, Матка Боска!"

***

Студэнт здае экзамен у эксцэнтрычнага прафесара. У пэўны момант той пытаецца ў яго:

— Як бы вы назвалі нашу размову?

— Гутаркай дзвюх вучоных асоб.

— А калі б адна з іх аказалася дурнем?

— Тады другая забірае сваю залікову кніжку і выходзіць!

## Памылка

Ён заўважыў яе яшчэ здалёк. Доўгія ногі, зграбная постаць, кароткая, з моднымі разрэзамі спаднічка. „Хіба можна параўнаць гэтую прыгажуню з маёй мегерай?" — пранеслася ў галаве.

Жанчына ішла няспешна, раз-пораз спынялася каля шматлікіх кіёскаў з імпартнай драбязой. Івану спяшацца не было куды, яшчэ паспее наслухацца жончынай буркатні. З жонкай ён пражыў амаль паўтара дзесятка гадоў. Сёння яму давялося „залажыць за каўнер" не адзін кілішак з нагоды дня нараджэння сябра. Таму лепш пабыць на свежым паветры, палюбавацца кабетай.

Ідучы на невялікай адлегласці, Іван трымаў у полі зроку жанчыну, якая яму падабалася. „Вось бы пазнаёміцца, — як тыя мухі, сталі надакучаць думкі. — Шкада толькі, што на вуліцы трапляецца шмат знаёмых. Неяк трэба падсці і пазнаёміцца", — цвёрда вырашыў Іван і ўсё глядзеў і глядзеў на прыгажуню. Цяпер Іван адзначыў яшчэ і цудоўныя доўгія валасы, пафарбаваныя ў белы колер. Іванава жонка таксама фарбавала валасы, але хіба можна параўнаць?..

Пачынала цямнець. Далей марудзіць было небяспечна, бо калі падыдзеш да незнаёмай жанчыны ў цемры, тая можа не зразумець тваіх намераў і звернецца ў міліцыю.

Іван падцягнуў штаны, паправіў чуб і рашуча параўняўся з жанчынай. Аблізнуў вусны і мовіў:

— Прабачце, вы не пакрыўдзіцеся, калі я прапаную пазнаёміцца?

Жанчына ад нечаканасці схамянулася, рэзка павярнулася да Івана і... той ледзь утрымаўся на нагах: гэта была яго жонка!..

**Міхась Каваль**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Чаму падаеце на развод? — пытае суддзя мужа.

— Бо жонка з візіту ў лекара вярнулася без майтак.

— Такое магло здарыцца...

— Ды яна была ў зубнога лекара.

* * *

Паліцыянт распытвае жанчыну:

— Ці муж перастаў вас біць, калі суд пакараў яго мільённым штрафам?

— Калі вяртаецца дадому, вымае з кашалька мільённы банкнот, доўга яго аглядае, уздыхае цяжка і супакойваецца.

* * *

Пракурор расказвае пра свой вопыт калегам:

— Найцяжэй даказаць віну жанчыне. Вось, напрыклад, нядаўна абвінавачвалася жанчына, якая легла ў ложак з папяросай, ад якой занялася пасцель а пасля аснашчэнне кватэры. Яна ўпіраецца, што нявінная.

— Чым гэта тлумачыць?

— Гаворыць, што калі клалася ў пасцель, дык ужо палыхала.

* * *

Суддзя да сведкі:

— Гаворыце, што абвінавачанага ведаеце як сябе самога. Скажыце тады, як ён мог дапусціцца гэтай пакражы?

— А якая сума маецца на ўвазе?

* * *

Два ўзломшчыкі гутараць аб сваім знаёмым:

— Ён вельмі набожны.

— І крадзе?

— Але толькі ў працэсіях і касцёлах.

* * *

Суддзя да абвінавачанага:

— Што яшчэ можаце сказаць у сваю абарону?

— Высокі суд! Прашу ўлічыць малады ўзрост і недасведчанасць майго абаронцы.

* * *

Начальнік турмы дапытвае вартаўнікоў:

— Як гэта сталася, што ўцёк вязень са 107-ай камеры?

— Ён папрocту меў ключ.

— Як гэта: украў вам?!

— Што вы! Гэта парадачны забойца; ён выйграў яго ад нас у карты.

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Хадзіў ён за мною, як цень. Спаглядаў на мяне сумнымі, безнадзейна закаханымі вычыма. Мне было прыемна, што яшчэ адзін мой школьны сябра стаў маім „фанам", але такіх у мяне было многа. На кожную дыскатэку я хадзіла з іншым ліцэістам (не толькі з нашага класа, але і з іншых, нават былі хлопцы з матуральных класаў, хаця я вучуся ўсяго ў другім).

Я высокага росту, поўнасцю сфармаванай „кабеткай" была ўжо ў пятым класе падставовай школы. Ужо тады некаторыя (тыя, што мяне бліжэй не ведалі) меркавалі, што я хаджу ў ліцэй. І ўжо тады хлопцы чапляліся да мяне. Вядома (асабліва сёння), што і мне кампанія хлопцаў даволі мілая. Я думаю, Сэрцайка, што гэта кожнай дзяўчыне прыемна.

Дык вось з гэтым хлопцам, пра якога я табе пішу, пазнаёмілася я бліжэй на адной са школьных дыскатэк. Я і раней яго бачыла ў школе, але цяпер станцавалі разам некалькі разоў і пасля ўжо былі ў адной кампаніі. Ён мяне нават правёў дахаты.

Чамусьці гэтаму хлопцу пачало здавацца, што мы ад гэтага часу „ходзім". Я не мела нічога супраць, калі ён наведваў мяне ў хаце, часамі мы некуды з ім выходзілі. Але, Сэрцайка, павер мне, я таксама „хадзіла" і з іншымі маімі сябрамі!

Аднак жа гэты хлопец не зважаў на гэта. Бываў там, дзе я бывала, круціўся каля мяне. Толькі пасля таго, як нечакана сустракаў мяне з іншым „кавалерам", некалькі дзён хадзіў учарнелы. Некаторыя сяброўкі ўжо пачалі лічыць нас парай, бо дзе ты не павернешся, казалі яны, усюды ён. Я гаварыла, што гэта няпраўда, што мы з ім не ходзім, але яны і так мне не верылі.

Але хлопец быў упарты і адданы мне, дык здавалася, што ён мог быць „маім" у любы момант. Не! Я не то, што каб пагарджала ім, але проста была ўпэўнена, што яго пачуцці дадзены мне ад Бога назаўсёды.

Калісьці ён вельмі разззлаваў мяне нават. Убачыў у кампаніі іншых, падышоў, перапрасіў і хацеў, каб я пайшла адтуль з ім. Яшчэ чаго! — сказала яму я. — З кім прыходжу — з тым выходжу!

Мяне ўзяла злосць, бо мне з той грамадою было надта прыемна. Мы сядзелі ў кавярні, якая была недалёка ад школы, пілі сабе каву, гутарылі, жартавалі, а ён тут раптам прыйшоў са сваімі жалямі (не адважыўся прысесці каля нас, бо гэтых людзей не ведаў).

Я думала, што хаця ён выйшаў са слязьмі на вачах, то назаўтра ў школе падыдзе, перапросіць мяне, што мне перашкодзіў, і будзе ізноў хадзіць за мною, як рабіў гэта апошнія два месяцы.

Нічога такога, аднак, не здарылася. Хлопец як у ваду кануў. Не шукаў мяне назаўтра і на другі дзень, і на трэці. І тады... я пачала шукаць яго. Падыходзіла да яго класа: быў. Усе выходзілі са школы — і ён выходзіў. Бачыў, што я чакаю, але не звяртаў на мяне ніякай увагі. Быццам бы было гэта пустое месца. А я сама падыходзіць да яго не хацела, гонар мне не дазваляў.

Пасля я спрабавала бываць у кампаніі, дзе найбольш моладзі было з яго класа. Аднойчы пайшла з імі на прыватку. І што там бачу? „Мой" хлопец не адыходзіць ад дзяўчыны — прыгажуні, цалуюцца, прытуляюцца, а на мяне ён нават не глянуў. Аказваецца, яны цяпер ходзяць. Што рабіць, як ты думаеш, Сэрцайка, ці можна вярнуць яго пачуцці? Як гэта зрабіць? Цяпер мне здаецца, што без яго жыцця няма.

**Эмілія**

Эмілька! На свеце так ужо яно ёсць, што ўсё, што пачынаецца, мусіць мець свой канец. Так было, відаць, і з пачуццямі таго хлопца. Калі ты брыдка яго патрактавала, відаць, у яго ў сярэдзіне ўсё перапалілася. А цяпер ён знайшоў дзяўчыну, якая яму падабаецца мо яшчэ больш за цябе.

Цяжка будзе вярнуць яго пачуцці. Куй жалеза, пакуль яно гарачае! Але можна спрабаваць быць яго добрай сяброўкай, „круціцца", як пішаш, каля яго. Толькі не будзь безнадзейна закаханай, бо бачыш, да чаго гэта прыводзіць!

**Сэрцайка**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014